ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 39 (2597)

1 кастрычніка 1998 г.

Выдаецца з 1955 г.

Цана 2000 рублёў.

З НАГОДЫ 80-х УГОДКАЎ ФЁДАРА ЯНКОЎСКАГА

## СЕЙБІТ

**Жыццё Фёдара Янкоўскага, слыннага нашага мовазнаўцы, ягоная навукова-педагагічная дзейнасць — гэта найвялікшы і яшчэ не даследаваны скарб нашага духоўнага жыцця. З-пад ягонага крыла выйшла гэтулькі выдатных дзеячаў навукі, мовазнаўцаў, і ў кожнага з іх свой Янкоўскі. З нагоды васьмідзесятых угодкаў з дня народзінаў слыннага мовазнаўцы публікуем згадкі аднаго з ягоных выхаванцаў — Уладзіміра СОДАЛЯ.**

### ПАШАНА

Кожную сваю стрэчу з Фёдарам Міхайлавічам, кожную размову з ім ці значную падзею, звязаную з яго постаццю, я тут жа, у гэты ж дзень, занатоўваў. Разумеў: міне час, і гэтыя мае нататкі калі-небудзь спатрэбяцца, прыдадуцца. За постаццю ж Янкоўскага — жывая кроў Беларусі. Вось, прыкладам, што я запісаў другога сакавіка 1973 года:

"У рэстаране "Космас" банкет з нагоды абароны дысертантаў Валянціна Рабкевіча і Івана Лепешава. Люд на банкет сабраўся даволі аднародны. Скрозь гучыць родная мова. Неяк дзіўна і нязвыкла, што не чуваць рускай мовы. Гавораць тосты, віншаванні. За тамаду абраны Адам Мальдзіс. Сыплюцца зычэнні, жарты, досціпы. "Сто грам белсэ", — кажа хтось, наліваючы чаркі. І гэты досціп зразумелы: тут пераважна сабраліся энцыклапедысты. Тут і Янка Скрыган, і Мікола Лобан...

Раптам хтось прапанаваў падняць чаркі за здароўе кіраўніка і настаўніка дысертантаў доктара філалогіі Фёдара Янкоўскага. І ўсе ўсталі. Гэта была нечаканка нават для таго, хто прапанаваў тост. Самога Фёдара Міхайлавіча на вечарыне не было. Ён толькі што выпісаўся з шпіталя пасля аперацыі.

У кагосьці вырвалася з грудзей:

— Гэта ж сімвалічна! Такой пашаны яшчэ ніхто не меў з беларускіх філолагаў! Гэта шмат чаго значыць.

Сказана гэта было даволі ціха, але з такой глыбінёй, што пачулі ўсе. Пасля гэтага ўшанавання пялі "Люблю наш край" і "Зорку Венеру". Вечар быў сагрэты якімсьці мяккім, пастэльным настроем. Усім было добра і вельмі вусцішна.

(Заканчэнне на 6-й стар.).

ДЫЯСПАРА

## БЕЛАРУСЫ Ў ФРАНЦЫІ І АРГЕНЦІНЕ

Гэты артыкул не прэтэндуе на ўсебаковае асвятленне працэсаў, якія адбываліся ў нацыянальнай свядомасці беларускіх эмігрантаў у Францыі і Аргенціне ў перыяд паміж першай і другой сусветнымі войнамі, а толькі яго спробаю. Выпучэнне гэтых дзвюх краін з шэрагу іншых абумоўлена параўнальна вялікай колькасцю нашых землякоў, якія выехалі туды. Да таго ж аўтар, каб напісаць яго, выкарыстаў факты і лічбы, выкладзеныя ў дакладзе беларускага гісторыка Тацціяны Папоўскай "Беларуская эміграцыя міжваеннага перыяду ў Францыі і Аргенціне", з якім яна выступіла на Міжнароднай навуковай канферэнцыі, што адбылася ў Маладзечне 19—20 жніўня 1992 года.

Але ўсё ж паспрабуем зазірнуць у той далёкі ўжо час і прасачыць лёс і жыццё беларусаў, якія апынуліся ў гэтых краінах.

Варта нагадаць, што тагачасная беларуская эміграцыя складалася з прадстаўнікоў заходняй часткі Беларусі, якія ў выніку сумнавядомага і здрадніцкага Рыжскага дагавора 1921 года сталі на спрадвечнай зямлі сваіх продкаў грамадзянамі іншай краіны — Польшчы. Афіцыйная польская прапаганда заўсёды падкрэслівала свае правы на зямлі Беларусі. Беларусы ж адчувалі сябе там людзьмі другога гатунку ў параўнанні з этнічнымі палякамі. Адметная мова "тутэйшых" беларускіх насельнікаў "усходніх крэсаў" выклікала раздражненне, непрыязнасць палякаў, якія называлі яе сапсаванай пальшчызнай. Гэтак жа, дарэчы, як і ва ўсходніх суседзяў, расійцаў, яна лічылася сапсаваным варыянтам "великорусского языка". Справу да таго ж ускладнялі і канфесійныя адрозненні ў веравызнанні (каталіцтва — праваслаўе). Беларусам, якія нарадзіліся на гэтай зямлі, ствараліі дадатковыя і штучныя перашкоды ва ўладкаванні на працу, хоць яны мелі пэўную адукацыю і маглі працаваць служачымі, настаўнікамі, святарамі. Увесь комплекс эканамічных, сацыяльных і іншых праблем выклікаў у беларусаў адчуванне сваёй непаўнацэннасці ў чужой для іх дзяржаве. Пыхлівае стаўленне да іх з боку паноў і каланістаў-палякаў не садзейнічала ўпэўненасці ў будучыні сваіх дзяцей на радзіме. Усё гэта наводзіла на думку аб пошуках лепшай долі ў іншых краінах, вымушала пакідаць зямлю сваіх продкаў і ехаць за мяжу. Для многіх тысяч абяздоленых людзей, якім у Польшчы не знаходзілася ні працы, ні хлеба, ад'езд за мяжу быў адзіным ратункам. Новая мяжа па ўсходніх землях Беларусі выключала магчымасць адшукаць працу ў СССР. Але ўсё ж існавала маг-

(Працяг на 3-й стар.).

«ДАЖЫНКІ—98»



**Трэці раз у нашай краіне святкаваўся рэспубліканскі фестываль-кірмаш працаўнікоў вёскі "Дажынкі-98". Гэтым разам на каравай новага ўраджаю запрашаў старажытны Нясвіж.**

**На некалькі дзён горад, як і стагоддзі назад, стаў культурнай сталіцай Беларусі. У час рэспубліканскага фестывалю-кірмашу "Дажынкі" вуліцы горада ператварыліся ў суцэльныя гандлёвыя рады, сталі пешаходнымі, пеўчымі і танцуючымі.**

**Упершыню ў небе над "вялічальным кругам" свята лунаў паветраны шар, упершыню прагучалі словы ўдзячнасці не толькі хлебаробам, але і вучоным, якія ствараюць новыя беларускія гатункі пшаніцы, ячменю, жыта, і сельскай моладзі, якая падхапіла працоўную эстафету бацькоў. На галоўнай плошчы Нясвіжа адбылося ўзнагароджанне герояў сёлетняга жніва — а гэта 450 чалавек.**

**Паводле слоў кіраўніка дзяржавы Аляксандра Лукашэнкі, які вітаў працаўнікоў вёскі і гасцей свята, сёлета сабрана звыш пяці мільёнаў тон збожжа. Сярэдняя ўраджайнасць па рэспубліцы пры гэтым склала больш як 22 цэнтнеры з гектара. Лепшыя намалоты дасягнуты ў Гродзенскай вобласці, дзе на**

**НА ЗДЫМКУ: святкаванне дажынак у Нясвіжы.**

**Фота Аркадзя НІКАЛАЕВА, БелТА.**

(Заканчэнне на 3-й стар.).

ГОРАД МАЙГО ДЗЯЦІНСТВА



## РАДЗІМА НЕ ЗАБЫВАЕЦЦА

У кнізе "Скідзель", расказаўшы пра адну з сустрэч у родным доме, напісаў: "А мне падумалася: што такое радзіма? Вядома, можна сказаць: месца, дзе чалавек нарадзіўся, і будзе правільна. Але ці толькі месца? Не, безумоўна, не. Да гэтага месца трэба прырасці, урасці ў яго, прывязацца да яго. Чым? Усім жыццём. Тысячамі і тысячамі падзей і з'яў. І не толькі прыемных. Чалавек, думалася, толькі тады пазнае смак радзімы, сапраўдную цану ёй, калі звздае на ёй радасць і горыч, шчасце і бяду".

Усё гэта мне давялося перажыць у Скідзелі. Помню яго яшчэ з таго, "польскага часу". Чыстае, акуратнае мястэчка.

**НА ЗДЫМКУ: куток пасляваеннай забудовы.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

(Заканчэнне на 8-й стар.).

## ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

ВІЗІТ ПАТРЫЯРХА

### АЛЯКСІЙ II У БЕЛАРУСІ



Па запрашэнню Прэзідэнта краіны Аляксандра Лукашэнкі з 24 па 27 верасня Беларусь наведаў Патрыярх Маскоўскі і ўсяе Русі Аляксій II. Гэта ўжо трэці пастырскі прыезд Яго Святейшаства ў нашу рэспубліку.

У першы дзень свайго знаходжання Святейшы Патрыярх сустрэўся з Прэзідэнтам Беларусі Аляксандрам Лукашэнкам. Затым прыняў удзел у царкоўных урачыстасцях, прысвечаных святкаванню Узвіжання Крыжа Гасподняга, якія адбыліся ў Полацку, у Спаса-Ефрасіннеўскім жаночым манастыры. Пасля богаслужэння Аляксій II адправіў чын узвіжання аднаўленага крыжа прападобнай ігуменні Полацкай, заступніцы Беларусі.

Гэта святыня праваслаўнай царквы была створана па заказу Ефрасінні майстрам Лазарам Богшам з выкарыстаннем старажытнавізантыйскай перагародкавай эмалі. Але ў пачатку Вялікай Айчыннай вайны крыж бясследна знік, і таму Беларуская праваслаўная царква прыняла рашэнне аб аднаўленні святыні. У мінулым годзе крыж прападобнай ігуменні быў асвячоны Мітрапалітам Мінскім і Слуцкім Філарэтам, Патрыяршым Экзархам усяе Беларусі і ўрачыста ўнесены ў Полацкі Спаса-Ефрасіннеўскі манастыр.

За час знаходжання ў нашай краіне Яго Святейшаства наведаў Мінскую, Віцебскую, Полацкую епархіі і шэраг прыходаў Беларускай праваслаўнай царквы.

НА ЗДЫМКУ: у час сустрэчы А. ЛУКАШЭНКІ і Патрыярха АЛЯКСІЯ II.

Фота Яўгена КАЗЮЛІ, БелТА.

### УЗНАГАРОДЖАННЕ ПАТРЫЯРХА...

Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Патрыярх Маскоўскі і ўсяе Русі Аляксій II (А. М. Рыдзігер) за асобыя заслугі ў развіцці і ўмацаванні сяброўскіх сувязей паміж народамі ўзнагароджаны ордэнам Францыска Скарыны.

### ...І МІТРАПАЛІТА

За вялікі асабісты ўклад у духоўнае адраджэнне беларускага народа Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі Філарэт (Вахрамееў Кірыл Варфаламеевіч) узнагароджаны Указам Прэзідэнта ордэнам Айчыны III ступені.

ДОПІНГ-КАНТРОЛЬ



Супрацоўнікі хіміка-радыеметрычнай лабараторыі рэспубліканскага навукова-тэхнічнага цэнтра "Экамір" раней займаліся толькі распрацоўкамі і кантролем за станам акаляючага асяроддзя і вырашэннем фундаментальных экалагічных праблем. Зараз спецыялісты лабараторыі, а гэта хімікі, фізікі, біёлагі, працуюць над новым накірункам — арганізацыяй у Беларусі допінг-кантролю ў галіне вышэйшых спартыўных дасягненняў.

НА ЗДЫМКУ: старшы навуковы супрацоўнік Віктар СУБАЧ і дырэктар РНТЦ "Экамір" Аляксандр КАВАЛЁЎ праводзяць аналіз лекавых прэпаратаў.

Фота Віктара ТАЛОЧКІ, БелТА.

АФІЦЫЙНАЯ СТАТЫСТЫКА

### РОСТ АБ'ЁМАЎ ПРАМЫСЛОВАЙ ВЫТВОРЧАСЦІ

У студзені-жніўні 1998 года прамысловасцю Беларусі выраблена прадукцыі (работ, паслуг) на суму 379 222 мільярды рублёў. У супастаўных цэнах, як сведчыць Міністэрства статыстыкі і аналізу, аб'ём прамысловай прадукцыі ў параўнанні з аналагічным леташнім перыядам павялічыўся на 12 працэнтаў.

Прычым рост назіраўся ва ўсіх галінах прамысловасці, апрача электраэнергетыкі, дзе меў месца спад на 8,1 працэнта.

Найбольш значны прырост аб'ёмаў вытворчасці зафіксаваны ў чорнай металургіі (на 24 працэнты), лясной, дрэваапрацоўчай і цэлюлозна-папяровай прамысловасці (на 21,5 працэнта), а таксама ў лёгкай прамысловасці (на 20,1 працэнта).

Адначасова ў пачатку 1998 года ў параўнанні з ліпенем назіралася змяншэнне аб'ёмаў вытворчасці ў чатырох галінах прамысловасці: у чорнай металургіі (на 6,7 працэнта), у харчовай прамысловасці (на 3,9), у машынабудаванні і металаапрацоўцы (на 2,5) і ў прамысловасці будаўнічых матэрыялаў (на 2,1 працэнта). У цэлым жа ў беларускай прамысловасці аб'ём вытворчасці ўзрос за жнівень на 3,3 працэнта.

РЭЙТЫНГ

### МАЗ У СОТНІ ЛЕПШЫХ

Міжнародная кампанія "Дэлойт і Туш" апублікавала чарговы штогадовы рэйтынг "Топ 100 — сто лепшых кампаній у Цэнтральнай Еўропе". Аналіз дзейнасці кампаній робіцца кваліфікаванымі спецыялістамі ў 17 краінах Цэнтральнай Еўропы і міжнароднымі экспертамі, якія спецыялізуюцца на аказанні паслуг ва ўсіх галінах эканомікі. Асновай для вызначэння месца ў рэйтынгу служыць атрыманы кампаніямі прыбытак.

З бягучага года гэты рэйтынг пачаў ахопліваць і Беларусь, па-за яго рамкамі застаюцца Расія і Украіна. Пад нумарам 72 у рэйтынг трапіў адзіны наш прадстаўнік — Мінскі аўтамабільны завод з больш чым паўмільярдным прыбыткам.

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

### ДАПАМОГА РАСІІ

Каменціруючы па просьбе журналістаў падзеі, якія адбываюцца ў Расіі, Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка, знаходзячыся 19 верасня ў Нясвіжы, адзначыў, што ў 30 суб'ектах гаспадарання суседняй краіны загінуў ураджай, адбылася дэзарганізацыя ў кіраванні эканомікай.

У гэтай сувязі наша рэспубліка дапаможа Расіі.

Акрамя таго, Аляксандр Лукашэнка падкрэсліў, што варта было б вярнуцца да расійскага рубля як адзінага плацежнага сродку. Ад гэтага, па яго думцы, было б лепш як для Расіі, так і для Беларусі і Казахстана.

На пытанне журналістаў аб магчымасці адстаўкі Прэзідэнта Расіі Барыса Ельцына кіраўнік беларускай дзяржавы Аляксандр Лукашэнка, знаходзячыся на Міншчыне 19 верасня, адзначыў, што "гэтае пытанне вырашаць самому Ельцыну, усім расіянам". Прычым Аляксандр Лукашэнка падкрэсліў, што "яму гэта неабыякава як кіраўніку Саюза Беларусі і Расіі".

ІНТЭЛЕКТУАЛЬНЫЯ РЭСУРСЫ

### АДУКАВАНЫ БЕЛАРУС

Беларусь не багатая на карысныя выкапні, якія гарантавалі б нам заможнае жыццё ў будучыні. Але ў нашай краіне ёсць іншыя рэсурсы — інтэлектуальныя. Штогод гэта даказваюць беларускія школьнікі на міжнародных алімпіядах.

За апошнія пяць гадоў вучні старэйшых класаў школ, гімназій і ліцэяў Беларусі прывезлі дадому 80 медалёў. Па традыцыі яны прымаюць удзел у алімпіядах па матэматыцы, фізіцы, хіміі, біялогіі, інфарматыцы і экалогіі.

Сёлета з 23 беларускіх школьнікаў, якія спрабавалі свае сілы на гэтых міжнародных спаборніцтвах, з медалямі прыехалі 16. Вучню 11 класа сталічнай школы № 32 Сяргею Маславу дасталіся лаўры пераможцы: ён стаў уладальнікам залатой узнагароды на міжнароднай алімпіядзе па біялогіі ў Германіі. Усё гэта — яшчэ адно пацвярджэнне слоў генеральнага дырэктара ЮНЕСКА Федэрыка Маёра, які нядаўна пабываў у нашай краіне і адзначыў, што беларуская сістэма адукацыі займае ў свеце лідзіруючыя пазіцыі.

З ВІЦЕБСКА



У Віцебску з'явіўся новы гандлёвы дом — свой фірменны гандаль на ўскраіне горада, у Маркаўшчыне, пачынае аб'яднанне "Віцебскдрэў". Але тут можна набыць не толькі будматэрыялы. У гандлёвай зале плошчай 300 квадратных метраў знайшлося месца і для прадуктаў харчавання, і тавараў штодзённага ўжытку.

НА ЗДЫМКУ: прадавец Марына КАРПОЎСКАЯ.

Фота Аляксандра ХІТРОВА, БелТА.

СЛАВУТАМУ ДЫПЛАМАТУ

### ПОМНІК І. ГАШКЕВІЧУ

Беларускі пасол у Японіі Пётр Краўчанка заказаў скульптару Валерыю Янушкевічу бюст выдатнага вучонага і дыпламата, першага расійскага консула ў Краіне ўзыходзячага сонца Іосіфа Гашкевіча. Адкрыццё плануецца ў снежні гэтага года на востраве Хакайда ў горадзе Хакадатэ, калі споўніцца 140 гадоў з дня высадкі консульства на ўзбярэжжы.

Японцы шануюць памяць беларуса Гашкевіча, як мала каго з дыпламатаў, нават назвалі яго імем праліў у Японскім моры. Гашкевіч вывучаў іх флору і фауну, склаў "Японска-рускі слоўнік", праяўляў надзвычайную дыпламатычную тактоўнасць і здолеў без усялякай ганарлівасці ўсяліць высокае паняцце аб Расіі. Яшчэ на пачатку васьмідзесятых японцы прыязджалі ў Астравец, каб знайсці магілу "белавалосага консула". Цяпер у гэтым райцэнтры адкрыты бюст Гашкевіча, прайшлі краязнаўчыя чытанні, прысвечаныя памяці выдатнага земляка.

ПАШАНЦАВАЛА

### НОВАЯ НАФТАШЧЫЛІНА

Брыгадзе буравога майстра Уладзіміра Яцухны з Мазырскай экспедыцыі глыбокага бурэння спадарожнічала ўдача. У час бурэння шчыліны ў Глушкавіцкім раёне на глыбіні не больш як 3 тысячы метраў быў атрыманы прыток нафты 15 кубаметраў у суткі! Папярэднія разлікі паказваюць, што прамысловы запас нафташчыліны — сотні тысяч тон.

НОВЫЯ ГРОШЫ




З 16 верасня 1998 года Нацыянальны банк Рэспублікі Беларусь увёў у абарачэнне мадыфікаваныя разліковыя білеты вартасцю 1 000 і 5 000 рублёў. Разліковыя білеты новагу ўзору выканаены на белай паперы з ахоўнымі валокнамі чырвонага колеру і агульным вадзяным знакам, аналагічным па малюнку вадзяному знаку 100-рублёвай купюры. Колер і графічнае выкананне вонкавага боку разліковых білетаў максімальна захаваны.

НА ЗДЫМКАХ: разліковыя білеты новага ўзору.

Фота Віктара ТАЛОЧКІ, БелТА.



## «ДАЖЫНКІ—98»







(Заканчэнне.
Пачатак на 1-й стар.).

круг сабрана 30,6 цэнтнера з гектара, у Брэсцкай — 23,3 цэнтнера і Мінскай — 22,45 цэнтнера.

Цяпер, падкрэсліў Прэзідэнт, перад аграрным сектарам краіны стаіць задача выйсці на ўзровень 1990 года. "Беларусь ідзе правільным шляхам развіцця сваёй народнай гаспадаркі, — адзначыў ён, — і нягледзячы на тое, што ў гэтым годзе ў параўнанні з папярэднім сабраны меншы ўраджай збожжавых, наша рэспубліка гатова прыйсці на дапамогу расіянам".

Аляксандр Лукашэнка ў гэты ж дзень пабываў у эксперыментальнай гаспадарцы "Ганусава", дзе ўручыў ключы ад новага дома лепшаму механізатару гаспадаркі Юрыю Раманоўскаму. Акрамя таго, шэраг перадавікоў, якія вызначыліся на ўборцы ўраджаю ў гэтым годзе, былі ўзнагароджаны каштоўнымі падарункамі — легкавымі аўтамабілямі, матацыкламі, халадзільнікамі і тэлевізарамі.

Свята ўдалося на славу. На вуліцах Нясвіжа, куды з'ехаліся лепшыя прафесійныя артысты і самадзейныя майстры, гучала музыка, людзі спявалі і танцавалі, весяліліся... Эстафета "Дажынак" перадаецца Магілёўшчыне.

НА ЗДЫМКАХ: Прэзідэнт Аляксандр ЛУКАШЭНКА ўручае ўзнагароды пераможцам; народныя гулянні на вуліцах старажытнага Нясвіжа.

Фота Аркадзя НІКАЛАЕВА.
БелТА.

# БЕЛАРУСЫ Ў ФРАНЦЫІ І АРГЕНЦІНЕ

(Працяг.
Пачатак на 1-й стар.).

чымасць выезду беларусаў у іншыя краіны свету, бо польскія ўлады, рэалізоўваючы санацыйны лозунг "Польшча — для палякаў", з вялікай ахвотаю пазбаўляліся ад "трафейных палякаў". Асабліва вялікая колькасць беларусаў у пошуках лепшай долі падалася ў міжваенны перыяд у Францыю, краіны Паўднёвай Амерыкі і Канаду. Польскія ўлады "выціснулі" з тэрыторыі беларускіх ваяводстваў у іншыя краіны свету каля 200 тысяч чалавек. Цяпер амаль немагчыма вызначыць дакладную лічбу беларусаў, што апынуліся ў Францыі ў перыяд між войнамі, бо дакладнай статыстыкі тады не было. Але ўсё ж па некаторых звестках мяркуюць, што яна складала 30—35 тысяч чалавек.

Як жа жылі беларусы ў Францыі? Якія арганізацыйныя ўмовы яны там мелі? Трэба адзначыць, што эмігранты з Беларусі ў Францыю былі прадстаўнікамі найбольш беднага, малазямельнага і беззямельнага сялянства, якое мела параўнальна нізкі ўзровень адукацыі. Таму і перспектывы развіцця культурна-асветніцкай працы сярод беларускай эміграцыі былі значна горшыя, чым, скажам, у італьянскай ці польскай дыяспары. І арганізацыйны рух сярод беларусаў па гэтай прычыне пачаў зараджацца толькі ў канцы 20-х гадоў. А да гэтага часу існавала толькі некалькі невялічкіх гурткоў і арганізацый у Эльзасе, Латарынгіі, на поўначы і поўдні Францыі. Яны не ставілі перад сабою ніякіх палітычных ці культурных мэт, а былі проста "сяброўска-сямейнымі". Паміж гэтымі гурткамі не існавала ніякіх сувязяў. Часта людзі нават не ведалі пра такія суполкі. І ўсё ж туга па Радзіме, жаданне апынуцца ў сваім асяроддзі, перакінуцца з землякамі родным словам штурхала беларусаў да стварэння зямляцкіх аб'яднанняў. У свой час тут вылучаўся гурток беларусаў у Біянкуры, які налічваў каля 50 чалавек. Ён быў арганізаваны рабочым фабрыкі Рэно Сарокам і працаваў у 1927—1928 гадах. Але Сарока не змог надаць аб'яднанню афіцыйны статус, і гурток распаўся.

Пачаткам самастойнага арганізацыйнага руху беларускай працоўнай эміграцыі ў Францыі трэба лічыць снежань 1930 года. Тады па ініцыятыве двух маладых інжынераў-беларусаў М. Абрамчыка і Л. Рыдлеўскага, што эмігрыравалі з Чэхаславакіі, быў заснаваны "Хаўрус" — культурна-асветніцкае аб'яднанне беларусаў, якое атрымала ад улад юрыдычныя правы адкрываць свае суполкі на ўсёй тэрыторыі Францыі. За восем месяцаў дзейнасці аб'яднання "Хаўрус" у розных раёнах Францыі былі створаны і афіцыйна зацверджаны пяць суполак, якія налічвалі амаль 350 сяброў. Пры гэтых філіях існавалі культурна-асветніцкія курсы, бібліятэкі. Справа, здаецца, зрушылася з месца, але кіраўнікам "Хаўруса" не ўдалося атрымаць права на пражыванне ў краіне. І неўзабаве арганізацыя спыніла сваю дзейнасць, бо ягоныя актывісты не змаглі належным чынам наладзіць у ёй працу. Спроба адрадзіць "Хаўрус" у 1933 годзе правалілася. І толькі ў 1936-м, калі адзін з яго арганізатараў М. Абрамчык усё ж здолеў пераехаць на пастаяннае жыхарства ў Парыж, пачалося аднаўленне дзейнасці беларускага аб'яднання. Пры ім штомесячна выходзіў "Бюлетэнь", які друкаваўся на літографе за кошт сяброў парыжскай групы. У той час гэта быў, бадай што, адзіны беларускі часопіс, які выдаваўся ў Заходняй Еўропе. У ім змяшчалася хроніка беларускага жыцця на Бацькаўшчыне, артыкулы па гісторыі і літаратуры, творы вядомых беларускіх празаікаў і паэтаў ад Янкі Купалы да Міхася Машары. Пры парыжскім аддзяленні "Хаўруса" былі арганізаваны курсы, на якіх рыхтаваліся спецыялісты для беларускай вёскі. Тут чыталіся лекцыі па аграноміі, матэматыцы, гісторыі Беларусі, беларускай літаратуры, палітэканоміі. Пры жаданні члены "Хаўруса", што жылі ў правінцыі, маглі атрымаць па пошце надрукаваныя тэксты лекцый. У 1937 годзе была заснавана бібліятэка-чытальня на 50 месцаў, праведзены 32 заняткі на курсах. З 1938 года пачала выходзіць газета "Рэха" — орган беларускай працоўнай эміграцыі. Друкавалася як кірыліцай, так і лацінкай. Газета знаёміла эмігрантаў-беларусаў з падзеямі на радзіме, захвочвала іх да чытання кніг на роднай мове.

У снежні 1938 года ў Парыжы была заснавана арганізацыя беларускіх жанчын — Беларуская жаночая грамада імя Алаізы Пашкевіч (Цёткі). Арганізацыя займалася культурна-асветніцкай дзейнасцю. І ўсё ж галоўнай яе мэтай было аб'яднанне кабет, што жылі ў Францыі, выхаванне ў іх дзяцей нацыянальнай свядомасці, эканамічная дапамога і самаадукацыя. Беларуская эміграцыя не цуралася і палітычнай дзейнасці.

Звесткі пра жыццё беларусаў у Францыі ў міжваенны перыяд, знойдзеныя ў эмігранцкай літаратуры, усё ж не даюць усебаковага ўяўлення аб тых мэтах, якія ставілі перад сабою заснавальнікі беларускіх арганізацый у Францыі. А ў савецкім друку жыццё беларускіх эмігрантаў за мяжой замоўчвалася або мела негатыўную афарбоўку.

Шмат беларусаў-эмігрантаў апынулася ў Амерыцы. Ад агульнага ліку беларускай эміграцыі міжваеннага перыяду ў краінах Паўднёвай Амерыкі, ЗША, Канадзе асела прыкладна трэцяя яе частка. Значная колькасць эмігрантаў з Заходняй Беларусі накіроўвалася ў Аргенціну. Асабліва актыўны рух беларусаў у гэтую краіну пачаўся ў 1926—1927 гадах. І штогод павялічваўся. Статыстычныя звесткі пра агульную колькасць беларусаў, што прыехалі сюды, вельмі супярэчлівыя, але найбольш верагоднай з'яўляецца лічба 100 тысяч чалавек, прыведзеная А. Калубовічам на падставе падлікаў членаў Аб'яднання беларусаў у Аргенціне.

Тут ужо разгарнулі сваю работу рускія, украінскія і польскія нацыянальныя аб'яднанні. Але і беларусам трэба было вызначацца. Спярша некаторыя з іх далучыліся да ўкраінскіх эмігранцкіх арганізацый. Узнік Саюз украінскіх і беларускіх суполак (СУРБА). Ён займаўся ў асноўным палітычнай дзейнасцю, меў пракамуністычны накірунак. І хутка самаліквідаваўся. Эстафету кіраўніцтва беларускім жыццём на эміграцыі перанялі палякі. За беларусаў узялася арганізацыя "Вольная Польшча", але вялікага захаплення ў іх гэта не выклікала. Пабыўшы сярод рускіх, украінцаў і палякаў, беларусы пачалі патроху думаць, каб стварыць сваю нацыянальную арганізацыю. Гэта было не даспадобы кіраўнікам польскай дыяспары. Маўляў, заходнія беларусы — былыя грамадзяне Польшчы і таму павінны быць у складзе польскіх нацыянальных арганізацый. Але беларусы заўпарціліся. І нарэшце ў снежні 1934 года ў Буэнас-Айрэсе было створана першае культурна-асветнае таварыства "Грамада".

У студзені 1937 года група з 180 чалавек, актывістаў беларускай справы, стварыла беларускае таварыства "Культура". Яго старшынёй быў абраны В. Крукоўскі, намеснікам — Х. Крэйдзіч, а сакратаром — Ю. Хведаровіч. Праца таварыства хутка актывізавалася. Ужо 25 чэрвеня 1938 года ў Буэнас-Айрэсе была наладжана пастаноўка на сцэне невялікай п'есы-камедыі "Мікітаў лапаць". Потым гледачы ўбачылі і драму "Птушка шчасця". Шырока сярод беларусаў сталі вядомыя музычны гурток Язэпа Анчулі і танцавальны, якім кіраваў Юрка Ежук.

У студзені 1937 года была створана яшчэ адна арганізацыя — Таварыства бібліятэкі імя Івана Луцкевіча. Пры ёй працавалі курсы беларускай мовы, мастацкі гурток, наладжваліся вечарыны, прысвечаныя творчасці беларускіх пісьменнікаў. Хутка мастацкі гурток бібліятэкі дасягнуў такога ўзроўню, што яго запрасілі нават выступіць на сцэне Нацыянальнага тэатра ў Буэнас-Айрэсе, іншых гарадах краіны, а таксама за мяжой. У кастрычніку 1938 года арганізавалася Беларускае культурнае таварыства "Белавежа". Культурна-асветніцкая праца беларускай дыяспары ў Аргенціне брала разгон, і ў маі 1939 года ўсе гэтыя арганізацыі аб'ядналіся ў Федэрацыю беларускіх арганізацый, да якой хутка далучылася Беларускае таварыства "Док Суд", арганізаванае 17 кастрычніка 1939 года, і Беларускае культурнае таварыства з горада Бярыса. 26 мая 1940 года ў сталіцы Аргенціны адбыўся першы кангрэс беларускіх таварыстваў, які потым наладжваўся кожны год — амаль да 1948 года.

Усёй дзейнасцю аб'яднанай федэрацыі кіравала ўправа на чале з Міхаілам Мярэчкам, Уладзіславам Гайлевічам, Янам Пятрушакам. Федэрацыя наладзіла выданне газеты "Эхо", а з 1940 года — "Белорусских иллюстрированных календарей", у якіх змяшчаліся інфармацыя аб жыцці беларусаў у Аргенціне, артыкулы па гісторыі Бацькаўшчыны. Выданні выходзілі на рускай мове, бо заходнебеларусы, якія апынуліся ў эміграцыі, не ведалі пісьмовай беларускай мовы, не ўмелі пісаць і чытаць па-беларуску: у польскіх школах тады было забаронена выкладанне іх роднай мовы.

У 1940—1943 гадах было выдадзена чатыры календары. І ўсё ж у некаторых таварыствах выдаваліся насценныя беларускія газеты на роднай мове ("Голас беларуса", "Кузьня", "Зара"). Трэба адзначыць, што ў той час нацыянальная свядомасць беларусаў у Аргенціне была не вельмі высокай. Сваю нацыянальную належнасць многія з іх вызначалі па веравызнанню: праваслаўны — значыць рускі. Але галоўная прычына прыхільнасці да ўсяго расійскага была глыбейшай: усе гэтыя арганізацыі, за выключэннем бібліятэкі імя Івана Луцкевіча, мелі прасавецкую арыентацыю і ў сваёй дзейнасці ішлі за тымі працэсамі, якія адбываліся ў БССР, дзе пасля нядаўняй беларусізацыі пачаліся ўціск і вынішчэнне ўсяго беларускага, нацыянальнага. Гэтыя працэсы набылі сярод эмігрантаў у Аргенціне асабліва шпаркія тэмпы на пачатку другой сусветнай вайны... Сярод эмігрантаў, якія былі прасякнуты камуністычнымі ідэямі, якія ў сваім расійскім аблічча павінны былі заглушыць усё нацыянальнае, у гэтым накірунку і была разгорнута дзейнасць. Першы з'езд Славянскай Федэрацыі адбыўся ў канцы 1943 года. Асноўную колькасць яго ўдзельнікаў складалі зрусіфі-

(Заканчэнне на 4-й стар.).

# БЕЛАРУСЫ Ў ФРАНЦЫІ І АРГЕНЦІНЕ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

каваныя беларусы і ўкраінцы з Парагвая, Уругвая, Бразіліі і Аргенціны. Федэрацыю ўзначаліў расійскі эмігрант-дваранін П. Шастакоўскі. Як асноўную мэту Славянская Федэрацыя вызначыла дапамогу СССР у барацьбе з фашысцкімі захопнікамі. Пры федэрацыі былі створаны камітэты дапамогі, якія збіралі харчы, адзенне, абутак, грошы для адпраўкі ў Савецкі Саюз.

З 1942 года пачаліся кантакты паміж кіраўнікамі беларускіх эміграцкіх колаў Аргенціны і савецкімі афіцыйнымі прадстаўнікамі. Менавіта ў гэтым годзе ў Буэнас-Айрэс прыйшоў першы савецкі карабель "Уладзімір Маякоўскі". На яго борт і была перададзена матэрыяльная дапамога, сабраная федэрацыяй. Пазней, калі ў 1946 годзе ў Аргенціне было заснавана савецкае пасольства, сувязі эміграцкіх арганізацый Аргенціны з СССР яшчэ больш узмацніліся. Савецкія прадстаўнікі ў Аргенціне пачалі ўмешвацца ў жыццё беларускіх эміграцкіх аб'яднанняў. Пад іх уздзеяннем беларускія эміграцкія арганізацыі ўсё больш гублялі сваю нацыянльную адметнасць. Так, у 1945 годзе беларускае таварыства "Культура" было перайменавана ў "Белорусское общество имени М. Горького". Былі створаны і новыя таварыствы — імя Л. Талстога і імя А. Пушкіна. Такім чынам, Федэрацыя беларускіх арганізацый поўнасцю далучылася да Славянскага Саюза.

У лістападзе 1946 года ў Аргенціне адбыўся другі з'езд Славянскага Саюза. У яго рабоце прынялі ўдзел прадстаўнікі пасольстваў СССР, Польшчы, Балгарыі, Югаславіі, Чэхаславакіі. Эмігрантаў у Аргенціне ахапіла сапраўдная эйфарыя, выклікаmake перамогай над гітлераўскай Германіяй. Пад уздзеяннем настойлівай прапаганды, паверыўшы ў шчаслівае жыццё на Бацькаўшчыне, прынесенае бальшавікамі, беларусы-эмігранты пачалі адмаўляцца ад аргенцінскага грамадзянства і прымаць савецкае, каб вярнуцца на Радзіму. Толькі прыхільнікі і сябры бібліятэкі імя Івана Луцкевіча не згубілі свой нацыянальны твар, не паверылі пракамуністычнай прапагандзе эміграцкага кіраўніцтва, яго русіфікатарскай лініі. З-за фармальнай зачэпкі бібліятэка была выключана з Федэрацыі беларускіх арганізацый і тым самым аўтаматычна — з Славянскага Саюза.

Далейшая дзейнасць эміграцкіх арганізацый у Аргенціне праходзіла на фоне "халоднай вайны". Урад Аргенціны з усё большай падазронасцю глядзеў на іх, рабіў перашкоды. Пасольства Аргенціны ў СССР у 1948 годзе не выдала візы запрошаным у якасці гасцей на трэці з'езд Славянскага Саюза пісьменнікам СССР, сярод якіх быў і Пятрусь Броўка. Незадаволенасць аргенцінскіх улад пракамуністычнай дзейнасцю эміграцкіх арганізацый прывяла да роспуску Славянскага Саюза. Іх маёмасць перайшла ва ўласнасць дзяржавы. А ў спецыяльным дэкрэце прэзідэнта іх дзейнасць была прызнана шкоднай для краіны. Пашанцавала толькі бібліятэцы імя І. Луцкевіча. Яна не падпала пад гэты дэкрэт, бо ўжо раней была выключана са Славянскага Саюза. Бібліятэка працягвала сваю работу. Але гэта вельмі не падабалася савецкім дыпламатам у Аргенціне, і яны дамагліся свайго: пасля настойлівых захадаў консула СССР у 1950 годзе была прыкрыта і гэтая асветная арганізацыя.

Райскае жыццё беларусаў-эмігрантаў у Аргенціне, на якое яны вельмі спадзяваліся, пакідаючы "крэсы", не атрымалася. А слабая нацыянальная свядомасць у тых умовах давала магчымасць накіроўваць іх грамадскае жыццё ў тое ці іншае рэчышча. Гэта вяло да страты нацыянальных пачуццяў, рабіла прадстаўнікамі той жа расійскамоўнай масы, "савецкага народа" — толькі ў замежным варыянце і ў іспанамоўным асяроддзі.

Тое ж самае з беларускімі эмігрантамі адбылося і ў Францыі.

**Мікола КАПЫЛОВІЧ.**



Горад беларускіх шахцёраў — Салігорск.

**Антон ПАДДУБІЧ**

# ПАДАРОЖЖА ПА ВЯЛЕЙШЧЫНЕ

— А бадай цябе гаручка! — думаю сабе. Трэба ж было адразу гэта зразумець, а я ні за што, ні пра што накінуўся на чалавека са сваймі выгаворамі. Мабыць, я ўжо завандраваўся, — падумаў.

Калі прыходзіцца пісаць або гаварыць аб Будзе, дык было б проста грэшна ня ўспомніць аб нацыянальнае сьвядомасьці жыхароў гэтага сымпатычнага мястэчка. Трэ' было б сьпісаць не адзін аркуш паперы, каб расказаць, ад якога часу распачалася тутака адраджэнская праца, хто яе праводзіў і г. д. Спадзяюся, што йшчэ працуючы й заўсягды энэргічны ведамы коопэратар Эдвард Будзька, паходзячы родам з Буды, які шмат папрацаваў на беларускае ніве, не адмовіць і раскажыць жадаючым аб мінуўшае працы ў гэтым мястэчку. Дадам ад сябе толькі, што я, йшчэ будучы студэнтам-тэхнікам, а з таго часу прайшло шмат гадоў, сустракаўся тутака ўжо са сьведамымі беларусамі. Але, ня гледзячы на сьведамасьць жыхароў Буды, беларуская нацыянальная праца тутка не спыняецца. Працуюць тутка ня толькі беларускае студэнтства й гімназіяльная моладзь, але й самі сяляне, прыкладам, як працавітыя і ідэйныя Бабарыка з Палесься й Балесь Будзька з Буды й шмат іншых. Цьвёрда тутака стаяць беларусы за сваё, і нікому не ўдасца скрануць іх ані на захад, ані на ўсход.

Як жывуць тутка сяляне? Тая самая злыбеда, мо' ў меньшае меры, як у іншых кутках нашае Бацькаўшчыны пад Польшчай. І тутака не багацеюць, а галеюць. Залатоўку ж прыходзіцца дабываць потам. Дый ці заўсёды можна яе зарабіць.

На заканчэньне хачу зрабіць адну ўвагу, якая мо' й ня ўсім будзе нам падабацца, ды наперад прашу не прагневацца.

Некалькі слоў да маладой інтэлігенцыі, якая вышла з сялянскіх хатаў. Калі першыя піонэры будзілі Беларускі Народ да сьведамага нацыянальнага жыцьця, дык першнаперш думалі аб гэтым Народзе і кожныя хвіліны вольнагу часу гэтаму Народу пасьвячалі, гаворачы, чытаючы, а галоўнае ж разам з ім працуючы й дзелячы ягоную цяжкую долю.

Як ведама, Беларускі Народ, на жаль, не здабыў йшчэ таго, чаго патрабуець, й таго, што яму належыць. Ня трэ' закрываць вачэй на той вельмі сумны факт, што йшчэ да сёньняшняга дня не наступіла поўнае ўсьведамленьне нашага Народу, і вот жа аб гэтым нельга забывацца беларускае інтэлігенцыі, асабліва тым, якія цесна зьвязаны з роднымі гонямі. Мы ня маема йшчэ права спачываць на лаўрах, бо перад намі пропасьць работы.

Калі, аддыхаючы летам на вёсцы, пасьля навук, находзіцца часу на тэніс, гімнастыку і на другія, выбачайце, часта непатрэбныя заняткі, дык ці ж не найшлося б у гэтае моладзі часу на ладжаньне беларускіх прадстаўленьняў, лекцыяў, дыспутаў й рэфератаў? Ці не варта было б пабываці нашае акадэміцкае молазі ў смуродлівым, тыпова "дыкалонным" Даўгінаве, дзе шэрае жыцьцё гэтага вузлаватага мястэчка, заедзенага гандлям, мяхлярствам й дурацкім моднічаньнем, пачынае аддаваць тхлёю і аржаўшчынай? Сваймі роднымі песьнямі й скокамі, ёмкім беларускім словам й гумарам, жыцьцём маладое энэргіі ўскранулі б яны дрэмячае беларускае мяшчанства ў Даўгінаве й ачысьцілі б тхлю і аржаўшчыну з іхняга санлівага й шэрага жыцьця. Дый ці толькі ў адным Даўгінаве...

Верце мне, што хаця тэніс — гульня і прыемная, як прыемен і карысьцен спорт наагул, але сяляніну гэтыя гульні вельмі не падабаюцца, асабліва ў летнюю пару, калі яму часам, залезшы па пояс у балотную рудаўку, прыходзіцца муціць на пякучым сонцы цэлы дзень касою. Не "панскімі" забавамі ў тэніс трэ' пасьвячаці вольны час на вёсцы ў гарачую рабочую пару, бо ня гульнямі трэ' шукаці лучнасьці з нашым гаротным сялянінам, а стоячы з ім побач з касою ў руках на сенажаці і з плугам на полі.

Праца ў полі заменіць спорт і старая мудрая лацінская прымаўка "Mens sana in corpore sano"' — Заровы дух у здаровым целе — зусім апраўдаецца.

Пагутарыўшы з будзянамі, пацікавіўшыся тым-сім, адвітаўся з сымпатычнае Будай й іду далей.

— А ці ведаеш, што ў нас хутка будзе электрычнасьць? — пытаюцца ў мяне ў дагонку.

— Не, — адказваю. — Вы самі праводзіце?

— Дзе там — пан.

— А-а-а! — разачаравана адказваю.

— Прыхадзі паглядзець Буду пры электрычным сьвеце, — запрашаюць.

— Пастараюся. Бывайце!

— Бывай!

Дажджы, размякшая дарога, а глаўнае — прастуда, якую, вандруючы, нажыў, змушаюць мяне да павароту ў бацькоўскую хату, каб крыху аддыхнуць, упарадкаваць свае ўражаньні і занясьці іх на паперу. Іду ў пагранічнае паласе, аднак асьцерагаюся ўглыбляцца пад граніцу. Мінаю блізка паложаныя пры граніцы вёскі і хутары. Проста асьцерагаюся, бо тут найскарэй могуць прыняць мяне за чалавека, шукаючага "шчасьця" і тагды ніякія "dowody tożsamosci"[1] не памогуць. Дый ня маю патрэбы валачыцца пры самае граніцы, бо аб жыцьці пагранічных вёсак, аб панующых у іх настроях мне добра ведама.

Жывуць жа яны ў асабліва цяжкіх абставінах. Тут заўсёды трэ' мецца "na baczności"[2], ніколі нельга разлучацца са сваймі "dowodami" — гранічнымі дакументамі. Калі гаспадар, працуючы пры граніцы, не маець пры сабе гэтых дакументаў, або загадзя не заявіцца на сваёй бліжэйшае стражніцы, дык не абароніцца пасьля ад прыкрасьцяў, бо калі ў лепшым выпадку павядуць яго ў абвод і, "дапрасіўшы", пусьцяць, дык у горшым — могуць загнаць аж у Будслаў, а гэта ўжо блага...

Нельга аднак казаць, каб вайсковая пагранічная ўлада знарок рабіла якія-колечы перашкоды сялянству ў працы пры граніцы, або яе крыўдзіла. Сужыцьцё паміж К.О.Р.[3] і сялянствам не найгоршае. Korekt. Разумеецца, што ў гэтым "korekt" праглядаюць вышэйшасьць й апякунства. Дыктуюцца гэтыя карэктныя адносіны ня толькі жыцьцёваю неабходнасьцю, але й "вышэйшымі" — палітычнымі ўзглядамі. Але, ня гледзячы на гэта, як ужо казаў, жывецца тутка ў асаблівых абставінах зьвязанасьці і паднявольнасьці. Тут трэ' пільнавацца. І пільнаваць ня толькі сваіх пагранічных дакументаў й жывёліны, але й каб не падслухалі тваіх сьмелых гутарак з суседам. Падслухаць жа й данясьці ёсьць каму. Назначаны "z urzedu"[4] солтыс, паляк-вучыцель, якога першым і глаўным заданьням ёсьць "krzewienie polskości"[5] і арганізаваньне беларускае моладзі ў "strzelcy"[6], маюць тут чуйныя вушы. Малая макулінка і паліцыя "do ich dyspozycji"[7], а там — "татава хата" і высылка. А колькі ж "лаўцоў за душамі" — шпікоў — цягаецца тутка, як ваўкоў, шукаючых падліны. І стваралася такая атмасфера, як казаў мне мой прыяцель Язэп з К. — душна й няма чым дыхаць...

Гэта маральная старана жыцьця пагранічнае вёскі. А цяперака пара слоў аб матэрыяльнае старане. Перад усім кідаецца тут у вочы страшэнная беднасьць пагранічных сялян. Глаўнейшымі прычынамі гэтае беднасьці з'яўляюцца высокія падаткі, неўраджаі, адсутнасьць заработкаў. Калі ўдасца зарабіць у пана-абшарніка залатоўку за 12 гадзін працы, дык лічыцца тут ужо добра, але гэтае "дабро" здараецца рэдка. Наагул жа заработкаў тутака няма. Ураджаі ж у сёлетнім годзе такія, што вясной бадай што ці будзе чым засеяць поле, не гаворачы ўжо аб тым, чым пражывіцца зімою. Бульба прапала, ячмень — гэтак сама. Жыта няўмалотнае. Трэ' выкарміць парсюка на падаткі. Але чым? Што можыць прадаць абяднеўшы гаспадар са сваёй гаспадаркі? Мо' ён не ашчадны, мо' лішнія грошы выдаець на абутак, адзежу, ласа есьць? Мо' знарок ня хочыць плаціць падаткаў? Ходзіць ён у лапцях, у падранае кажурыне, мыла не купляець, бо хусьцё жонка мые "лугам", серчык замяняець красівом, хату асьвятляе "смаркачкай", есьць посную капусту з бульбай, бо на падаткі прадаець апошняга парсюка.

Мо' хто падумаець, што ўлада бярэць гэтую беднасьць пад увагу, што робяцца палёгкі. Вельмі мыляюцца тыя, што так думаюць. Як раз тут — на пагранічы — найчасьцейшым "гасьцём" з'яўляецца сэквэстратар, судзебны каморнік і іншая ўлада, ліквідуючая, забіраючая і абдзіраючая ўжо і без таго абдзёртага беларускага сяляніна. Няма блізу ніводнага гаспадара ў пагранічнае вёсцы, каб у яго не забралі за падаткі кажуха, палатна й жывёліны. Знарок падчыркваю гэта, каб усім было ведама. З пачаткам вясны, калі сялянін бядуець, што няма чым пракарміць скаціну, няма зярна, каб засеяць поля, няма чаго есьці — як вараньнё злятаюцца "бічуны", каб забічаваць пачарнеўшага, пасінеўшага й галоднага гаспадара. І трэба дзівіцца, што гэты забіты горам сялянін йшчэ сёньня жывець й дыхаець... А паглядзелі б, як такі пан сэквэстратар, у асыстэнцыі солтыса і паліцыянта "gorliwie urzeduje"[8]. Калі сялянін, страціўшы цярплівасьць, пачнець голасна выказваць сваё абурэньне — гэты пан грозіць яму рэвольварам й высьмейвае пахабшчынай... Z kurwy synie placic i nie rozmawiać! Dawać i nie rozmawiać Zamknać pysk!..[9].

Калі ў першыя дні польскае дзяржаўнасьці на "kresach wschodnich", дзеля няпэўнасьці граніц, пан-абшарнік пачаў падаваць руку ўнукам прыгонных дзядоў — праўда, пасьля мыючы гэтую руку мылам, — дык тагды гэты мужык быў патрэбен. Тагды называлі яго "obywatelem"[10]. Тагды гаварылася аб вольнасьці і роўнасьці. Падахвочвалі яго йсьці ў польскае войска й біцца "з дзікім усходам". Сёньня ж, калі мінула патрэба заахвочваць беларускага сяляніна да вайны з "дзікім усходам", бо ў гэтым усходзе найшлі раптам дасюль недагледжаныя "цэннасьці", дзякуючы якім перастаў быць "дзікім" і дзякуючы якім навязалася дружба не на жарты — называюць ужо беларускага сяляніна не "obywatelem", а прыказваюць гэтаму psu i z kurwy synu, каб, zamknawszy pysk, плаціў дзяржаўныя падаткі і — дабаўляю ад сябе — каб быў лёяльным да тае дзяржавы, у межы якой цябе, беларускі гаротнік, укінулі.

**Да друку падрыхтавала Яніна КІСЯЛЁВА.**

Заканчэнне. Пачатак у №№ 33—38.

[1] Асабовыя пасведчанні.
[2] Быць пільным.
[3] Пагранічнікі.
[4] Уладамі.
[5] Укараненне польскасці.
[6] Стральцы.
[7] У іх распараджэнне.
[8] Старанна выконвае свае абавязкі.
[9] Вырадак, плаці і не размаўляй! Давай і не размаўляй! Закры пашчу!
[10] Грамадзянінам.





"Где тело моё острупленное и изъязвленное будет схоронено, там Православие процветет". Такія словы сказаў у апошнія гады свайго жыцця Афанасій, ігумен Брэсцкі, які не прыняў умоў Брэсцкай уніі 1596 года і быў асуджаны на пакутніцкі вянец. З дня яго смерці прайшло 350 гадоў. Гэтай даце былі прысвечаны святкаванні, якія праводзіліся ў Брэсце 17—18 верасня Сінодам Беларускай праваслаўнай царквы. У іх прынялі ўдзел Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі Філарэт, кіраўніцтва Беларускай праваслаўнай царквы, многія іерархі праваслаўя з Польшчы, Украіны, Расіі. Закончыліся святкаванні хрэсным ходам і боскай літургіяй у Свята-Афанасьеўскім манастыры.

НА ЗДЫМКАХ: малебен у Свята-Нікольскім гарнізонным саборы Брэсцкай крэпасці, які цяпер аднаўляецца; лік прападобнамучаніка Афанасія ў капліцы Свята-Афанасьеўскага манастыра, пабудаванай на месцы гібелі Афанасія; знешні выгляд капліцы.

Фота Рамана КАБЯКА, БелТА.



У БЕЛАРУСАЎ МАСКВЫ

# АД СКАРЫНЫ ДА КУПАЛЫ

Свята беларускага пісьменства і друку даўно выйшла за межы Беларусі. Гэтым разам на традыцыйны Дзень адгукнуліся ў Маскве. Расійская дзяржаўная бібліятэка пры дапамозе аб'яднання беларусаў Масквы "Бацькаўшчына" і Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў нападзіла выставу беларускай кнігі пад дэвізам "Ад Скарыны да Купалы". Дзяржкамітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь таксама заўсёды дапамагае ў арганізацыі мерапрыемстваў сваім суайчыннікам. Ім быў накіраваны ў Маскву беларускі пісьменнік, паэт і бард Анатоль Кудласевіч, вядучы літаратурнай праграмы Беларускага радыё, а таксама перададзены новыя перыядычныя выданні, відэазапісы аб культурным жыцці Беларусі.

У самой назве выставы адлюстраваны храналагічныя межы і змесціва накірунак кніжнай прэзентацыі — ад Скарынавае векапомнае "Біблії", а яшчэ раней ад "Слова аб палку Ігаравым", многіх іншых твораў нашае даўніны да прыжыццёвых выданняў Дуніна-Марцінкевіча, Багушэвіча, Цёткі, Купалы, Коласа, Багдановіча, Гарэцкага, іншых пісьменнікаў (Дубоўка, Пушча, Калюга, Чорны і г. д.). Багата прадстаўлена была і сучасная літаратура ў асобах Танка, Куляшова, Мележа, Брыля, Караткевіча, Гілевіча, Барадуліна, Вярцінскага, Быкава, маладзейшых Л. Галубовіча, Л. Дранько-Майсюка, А. Сыса і інш.

Асобнай вітрынай мабыць упершыню на маскоўскіх выставах былі прэзентаваны кніжныя набыткі беларускага замежжа: працы славутага беларуса-масквіча Мікалая Улашчыка, польскага гісторыка Юры Туронка, выданні Беларускага інстытута навукі і мастацтва ў Нью-Йорку, беларускіх таварыстваў у Канадзе, Англіі. Частку кніг з гэтага раздзела сябры "Бацькаўшчыны" прапанавалі на выставу з сваіх прыватных калекцый і пры адкрыцці перадалі ў якасці дару Расійскай бібліятэцы.

Адкрыццё і агляд выставы — а сабралася многа народу — прайшлі ў атмасферы жывога прыязнага, не без палемікі, творчага дыялога пра лёс беларускай кнігі, беларускай мовы, пра духоўна-культурнае ўзаемадзеянне народаў Беларусі і Расіі. Аб усім гэтым гаварылі ў сваіх выступленнях госці з Беларусі: намеснік старшыні Дзяржкамітэта Беларусі па друку С. Нічыпаровіч, намеснік дырэктара бібліятэкі Н. Ігумнава. Аб гісторыі ўтварэння Дня беларускага пісьменства расказаў паэт І. Карэнда. Доктар філалагічных навук А. Каўка зрабіў даклад "Беларуская кніга ў Маскве" і падараваў бібліятэцы кнігі са сваёй калекцыі. Мілагучнае харство роднага слова пад гітару ўзрушліва пераказаў са сцэны Анатоль Кудласевіч.

Будзем спадзявацца, што падобныя святы будуць у Маскве традыцыйныя.

**А. ГЛОД,**
**старшыня аб'яднання беларусаў "Бацькаўшчына".**
г. Масква.

З ВІЛЕНШЧЫНЫ

# ВЫСТАВА БЕЛАРУСКІХ МАСТАКОЎ БАРХАТАВЫХ

У польскай галерэі сталіцы Літвы была адкрыта выстава мастакоў з Беларусі Алены і Ігара Бархатавых. Для віленчукоў мастацкія выставы не рэдкасць, у тым ліку і беларускіх мастакоў. Але гэтая падаравала сустрэчу з цудоўным, яна ўразіла, ускалыхнула сэрцы. Можна гадзінамі захапляцца, атрымліваць асалоду ад рэалістычных прац мастакоў, на якіх мілая і дарагая сэрцу прырода роднай Беларусі. Пабывала на выставе, а ўражанне, быццам "блукала" ў старажытным парку, садзе, "блукала" па восеньскім лесе. Ды і назвы пейзажных прац аб гэтым сведчаць: "Студзень", "Восеньскі сад", "У старым парку" і г. д. Алена і Ігар Бархатавы — паслядоўнікі рускай рэалістычнай школы, Ігар — выпускнік Маскоўскага мастацкага інстытута імя В. Сурыкава.

На адкрыцці выставы прысутнічалі пасол Беларусі ў Літве Я. Вайтовіч, Украіны — Р. Біладзід, Рэспублікі Польшча — Э. Тэйхман, часовы паверany ў справах Расіі ў Літве В. Палякоў і дарадчык па культуры расійскай амбасады В. Пракаповіч, прадстаўнікі беларускіх грамадскіх арганізацый у Вільні.

**Леакадзія МІЛАШ.**
г. Вільнюс.

З СІБІРЫ

# ДАПАМАЖЫЦЕ ІРКУЦКІМ БЕЛАРУСАМ!

У час свайго знаходжання ў Мінску ў рэдакцыю "Голасу Радзімы" завітаў старшыня Іркуцкага таварыства беларускай культуры імя Чэрскага Алег Рудакоў. Гэты энергічны малады чалавек, шчыры патрыёт сваёй Бацькаўшчыны выказаў падзяку за газету "Голас Радзімы". З яе яны даведваюцца пра падзеі на Беларусі, навіны культуры, артыкулы вучоных, пісьменнікаў, краязнаўцаў даюць багатую інфармацыю аб мінулым і сучасным нашага роднага краю. З газеты яны даведваюцца аб жыцці і працы беларускіх суполак у былых саюзных рэспубліках. І гэта для іх таксама вельмі важна. Алег Рудакоў выказаў падзяку за тое, што газета з Мінска прыходзіць да іх бясплатна, таму што падпісацца на яе яны магчымасці не маюць.

— Так, у каталогу газета ёсць, — зазначае Алег Рудакоў. — Але калі на пошце я папрасіў падпісаць мяне на "Голас Радзімы", паштовы работнік адказала, што падпісаць яна можа, але газету я наўрад ці буду атрымліваць. Чаму так адбываецца, яна не патлумачыла. Я ўсё ж падпісаўся, нягледзячы на папярэджанне, але газета па падпісцы не прыходзіць.

Алег Рудакоў са шкадаваннем гаварыў, што дзяржава вельмі мала дапамагае беларусам, якія вымушаны жыць удалечыні ад яе.

— Мы з зайздрасцю глядзім на палякаў, яўрэяў, прадстаўнікоў іншых народаў, якія жывуць побач з намі. Ім дапамагаюць матэрыяльнымі сродкамі, тэхнікай, нарэшце, увагай. А мы нікому не патрэбныя. Я і тут, у Мінску, заходзіў у розныя арганізацыі, якія займаюцца дыяспарай, у дзяржаўныя і грамадскія, звяртаўся па дапамогу. Мне ў лепшым выпадку прапаноўвалі кнігі. А нам "Маланку" — наш часопіс — няма як выпускаць, прасіў хоць старэнькі які-небудзь камп'ютэр. Ніхто не адгукнуўся на нашу просьбу.



Дарэчы, Алег Рудакоў пакінуў у рэдакцыі і некалькі нумароў гэтай самай "Маланкі", якую робіць адзін творчы супрацоўнік — ён сам з дапамогай мастака і карэктара. Даволі цікавы часопіс, які стараецца зазірнуць у мінулае Бацькаўшчыны, расказаць аб беларусах, якія жывуць у Сібіры, як захоўваюць яны сваю мову, песні, звычаі, традыцыі.



**Яшчэ старшыня іркуцкага таварыства пакінуў некалькі фотаздымкаў. На першым — святкаванне "Купалля" ў чэрвені 1998 года ў Іркуцку. Князь Купаліш — Алесь РУДАКОЎ, Купалінка — Святлана ЮРАНКОВА; на другім здымку — выступленне дзіцячага ансамбля беларускай песні і танца "Пралеска".**

**Дзіяна ЧАРКАСАВА.**

З НАГОДЫ 80-х УГОДКАЎ ФЁДАРА ЯНКОЎСКАГА

# СЕЙБІТ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

### А Я ДУМАЎ: ТЫ ЧАЛАВЕКАМ СТАНЕШ!

Дзесьці на заканчэнні трэцяга курса мне прыйшло ў галаву, а мо і не толькі ў галаву, мо і яшчэ некуды, — жаніцца. Ну дык надумаўся, дык і ажаніўся. Ажаніўся дык ажаніўся, зусім не думаючы, што гэтым зрабіў некаму прыкрасць. Аднак, як хутка высветлілася, знайшоўся і той чалавек, якога мая жаніцьба засмуціла. Гэтым чалавекам, як мо ні дзіўна, быў Янкоўскі.

Сустрэўшы неяк раз мяне, з крыўдай на сэрцы сказаў:

— Чуў я, што ты ажаніўся... Ажаніўся і мне нічога не сказаў, нават і не абазваўся, не заікнуўся. А я думаў: ты чалавекам станеш!..

На гэтым дакоры той раз мы і рассталіся... Я пайшоў трохі разгублены, трохі збянтэжаны, усё ламаў галаву: "Што гэта значыць: "Я думаў: ты чалавекам станеш!.." А хто ж я, калі не чалавек... Не п'ю, не смалю, вучыцца стараюся, не парушаю студэнцкага рэжыму. Люблю сваю мову, культуру... Шаную сваю маці... Не махлюю, не краду, жыву з таго, што маю... Не сквапны... Чуйны да чужога клопату... Што ж з мяне трэба яшчэ хацець?.."

І толькі пасля да мяне дайшло: прафесару Янкоўскаму хацелася з мяне вырабіць навукоўца. А я ўзяў і ажаніўся...

Я пачаў апраўдвацца, што навука жаніцьбе не перашкода, не замінка. Гэтым самым я падаваў сваіму настаўніку і апекуну якуюсь надзею. Пачаліся перамовы, што мяне больш прываблівае: мова ці літаратура. А я і не ведаў, што адказаць. Мне падабалася і мова, і літаратура, гісторыя і фальклор, этнаграфія і песня, краязнаўства і нумізматыка, публіцыстыка і белетрыстыка. І я не ведаў, на чым запыніцца. Мне было страшна нечым адным абмяжавацца. Мо таму я і не стаўся навукоўцам, хоць і рыхтаваўся здаваць кандыдацкі мінімум і ўжо дакументы рыхтаваў. Але пасля неяк гэта ўсё само сабою апала, і мы абодва — і я, і мой настаўнік — змірыліся, што афіцыйнага навукоўца з мяне не выйдзе, што я буду рупіцца на роднай ніве толькі па натхненню, што я і раблю ўжо не адно дзесяцігоддзе — трохі як мовазнаўца, трохі як даследчык, трохі як белетрыст. Вядома, каб абараніў кандыдацкую ці доктарскую — не зашкодзіла б. Але, мабыць, мне гэта не наканавана было. Пахвалім Бога і за тое, што Ён мне даў, на што скіраваў.

### СЛУХАЧКА З ПОЛІТЭХНІЧНАГА

Свае занядкі Фёдар Міхайлавіч вёў, безумоўна, адметна. Канспектамі амаль не карыстаўся. Пад рукой меў толькі карткі. Яго і напраўду, калі ён гаварыў ці штось тлумачыў, і сцены слухалі. Цішыня і ўвага ў аўдыторыі заўсёды была незвычайная. Дык як было не слухаць, калі ён рабіў нам адно адкрыццё за адным.

Згадваецца, аднаго разу прыйшоў на заняткі і напісаў на дошцы два простыя словы. Адно пад адным: снеданне і абед. Спытаўся, ці ёсць што агульнае між гэтымі словамі. Калі ёсць, то што? Гэта цяпер, калі вока філалагічна натрэніравана, калі яно імгненна здольнае вылучаць і расчляняць у словах усе ягоныя часткі, лёгка сказаць, што гэта словы аднаго кораня — "ед". Снеданне і абед. А тады мы ўсе разгубіліся. Гэтыя словы падаліся нам такія розныя, аддаленыя. Слова снеданне даўжэзнае. Вунь колькі ў ім гукаў — снеданне! То якую яно можа мець агульнасць з такім кароткім словам, як "абед"?! Безумоўна, мы адчувалі, што між згаданымі словамі ёсць якаясь еднасць. І найперш, што імі пазначана харчаванне чалавека ў розную пару дня. І толькі. Але ж ад нас хацелі пачуць філалагічнае назіранне. Як ні дзіўна, мы да гэтага яшчэ былі не падрыхтаваныя. І Фёдар Міхайлавіч рыхтаваў нас да гэтага.

З сваімі філалагічнымі адкрыццямі я з захапленнем знаёміў сваю стрыечную сястру Тамару Курленку, якая тады вучылася ў політэхнічным інстытуце на інжынера.

Маё захапленне філалогіяй, заняткамі Фёдара Міхайлавіча перадалося і ёй. Аднаго разу яна папрасілася на яго лекцыі, паслухаць, як ён вядзе заняткі. Фёдар Міхайлавіч даў на гэта сваю згоду. Тыя заняткі — зараз я не памятаю, якая была іх тэма — ён правёў бліскуча, апантана: у аўдыторыі ж апрача нас, філолагаў, сядзела студэнтка політэхнічнага інстытута! Вочы яго, як заўсёды, праменіліся жывымі агеньчыкамі. І гэта гарэнне перадавалася ўсім. Дзве гадзіны для мае сястры праляцелі як дзве хвіліны. Быў перапынак, можна было пайсці, калі нецікава. Але яна не пайшла. Пасля заняткаў сказала: "Табе, Валодзя, пашчасціла на настаўніка. У мяне такіх няма. Вучыся, старайся!.. Я табе трошкі зайздрошчу".

### АКУРАТНАСЦЬ І ЯШЧЭ РАЗ АКУРАТНАСЦЬ

Гэта было пятага студзеня 1976 года. Фёдар Міхайлавіч з нейкім клопатам завітаў на тэлевізію...

Здаецца, прыносіў штосьці друкаваць на машынку. Знайшоў і мяне. Прынёс мне аж адразу свае чатыры кнігі з аўтографам. Сярод іх — і "Абразкі". "Абразкі" ў мяне былі свае, і яны, можна сказаць, у мяне вызваляліся, сталі вольнымі. Вяртаць кнігу, хай сабе і на замену, не хацелася, і я прапанаваў падпісаць гэты асобнік яго колішняй выхаванцы Еўдакіі Мацюш. Ён з радасцю прыняў прапанову, узяў вольны экземпляр "Абразкоў". Але тут жа спытаўся, ці няма дзе паблізу нажніц. Я не пытаўся, для чаго яны. Раз яму патрэбныя, я адразу пайшоў шукаць. Калі нажніцы знайшліся, ён прыкінуў кніжачку "Абразкоў" на сонца, на святло, і зрэзаў тоненькія, крыху абшарпаныя палоскі супервокладкі і толькі тады сеў падпісваць яе. А я не заўважыў, што беражкі кніжачкі трохі абшарпаліся і нават не абшарпаліся, а патрэскаліся. А ён заўважыў.

### У КНІГАРНІ

Неяк так само сабой здаралася, што мы з Фёдарам Янкоўскім даволі часта сустракаліся ў горадзе. Вядома, выпадкова, без усялякай папярэдняй дамовы.

Звычайна пры такіх стрэчках ён, як трохі старэйшы, казаў што-небудзь прыемнае. Прыкладам: "На выгляд маешся добра". Пахваліць гальштук ці паліто, калі яны тагo вартыя, элегантныя. Расказваў пра сябе, пра свае задумы, планы, што зараз робіць, над чым рупіцца, галаву ламае.

Аднаго разу мы з ім напаткаліся поблізу так званай "Кнігарні пісьменніка". І зразумела, чаму. Кожны з нас кіраваўся ў гэтую кнігарню сам па сабе адным і тым жа часам. Таму і напаткаліся. Як і звычайна, кожны з нас расказаў пра свае навіны, клопаты і трывогі. А пасля зайшлі ў кнігарню. А там нібыта дзве кнігарні. Адна для ўсіх, а другая, за дзвярыма, толькі для пісьменнікаў. Нездарма ж яе назвалі "Кнігарня пісьменніка". Фёдар Міхайлавіч тады ўжо хадзіў не толькі ў вучоных, але і ў пісьменніках. І ён, як пісьменнік, адразу ж пашыбаваў за тыя дзверы, за якія можна было хадзіць толькі пісьменнікам. Я ж застаўся ў агульнай для ўсіх зале. Але не прайшло мо і дзвюх хвілінаў, як Фёдар Міхайлавіч вярнуўся з-за тых сакрэтна таямнічых дзвярэй, абураючыся на самога сябе:

— Што ж гэта я за такі, — казаў ён з дакорам. — Ішлі ўдвух, удваіх зайшлі разам, а я цябе, выходзіць, кінуў. Не па-людску гэта. — І павёў мяне за таямнічыя дзверы пісьменніцкай кнігарні. Хоць я за тымі патаемнымі дзвярыма нічога сабе не выбраў, а было прыемна, што Фёдар Міхайлавіч ліквідаваў гэтую няроўнасць між намі, спароджаную не ім, а тагачаснай элітай і ідэалогіяй, якая ж, вядома, не заглыбляючыся, падзяліла нас, зрабіла нас і тут няроўнымі, хаця нейкую хвіліну таму мы размаўлялі, як роўны з роўным. Здаецца, цяпер гэтая прывілея ў згаданай кнігарні ліквідавана самім часам, эпохай. А тады такое было. І пакінула мне з тае пары такую згадку, такі ўспамін.

### ДЛЯ ЦЯБЕ ЎСЁ ЗРАБІЎ

Фёдар Міхайлавіч вельмі не любіў марудаў, лайдакоў. Яму здавалася, што ўсе, хто з ім, капя яго, пры ім, павінны гарэць, як і ён. Іншы раз мне здавалася, што ён нават трошкі дэспатычны, трошкі жорсткі, залішне суровы, патрабавальны. Я нават пра гэта неяк аднойчы яму сказаў. Узяўся таго-сяго бараніць з яго падначаленых. Для яго гэта была нечаканка. Ніхто дагэтуль на гэта не адважваўся. На гэтае заступніцтва Фёдар Міхайлавіч адказаў:

— Не бараці, Валодзя, іх. Лайдакі яны і ёсць лайдакі. Іх як ні варушы, а яны, як валы, марудныя. Вось для цябе, калі на гэта будзе патрэба, я ўсё зрабіў бы, усё зраблю. Скажам, мог бы ўсе твае чарнавікі на чыставік перапісаць... А тых, каго ты бараніць узяўся, не барані. Іх трэба варушыць ды варушыць. Каб не варушыў іх, яны на хаду пазасыналі б.



Размаўлялі мы з Фёдарам Міхайлавічам у калідоры пры акне.

...Мімаходзь сведкам гэтай размовы быў хтосьці з маладых выкладчыкаў ці аспірантаў. Пасля ён казаў: "Мы сабе такога не дазвалялі... Мы не можам. Табе гэта рабіць зручней... Ты з ім на адлегласці... А мы кожны дзень з ім пабач, поруч, у адным калідоры, у адных кабінетах..."

То ці быў Фёдар Міхайлавіч суровы, а нават жорсткі...

А, пэўна, што быў... Але дзеля справы, дзеля святой справы, назоў якой Беларусь і беларушчына. Імі ён жыў. Імі ён гарэў. То як яму было быць абыякавым, калі раптам побач з ім апыналіся людзі, якія не загараліся гэтым святым агнём?

### ПРЫЗНАННІ ФЁДАРА ЯНКОЎСКАГА

Калі я чытаю лекцыі, мяне і сцены слухаюць...

* * *

У мяне ёсць семнаццаць чалавек. Я іх заўсёды бачу, заўсёды пра іх думаю. Сярод іх і ты...

*З гаворкі семнаццатага ліпеня 1973 года.*

* * *

Я хоць і не люблю фатаграфавацца, а з табою хоць і зараз гатовы стаць пад аб'ектыў.

*З размовы 21 лютага 1974 года ў філалагічным корпусе педінстытута.*

* * *

Усе каморкі мае душы нікому не ўдасца выведаць. Толькі шчырым людзям я адкрыю яе...

**НА ЗДЫМКУ: Фёдар ЯНКОЎСКІ (другі справа) з нямецкім вучоным-лінгвістам Карлам ГУДШМІТАМ.**

---

ПЕРАКЛАДЧЫКІ ТВОРАЎ ВЯЛІКАГА ПЕСНЯРА

# ЗВАРОТ ДА СПАДЧЫНЫ

Творы Якуба Коласа вядомыя не толькі на радзіме паэта, на Беларусі, але і далёка за яе межамі. Садзейнічаюць гэтаму таленавітыя перакладчыкі. Дзякуючы іх працы, Коласава слова гучыць на розных мовах свету.

10 верасня 1998 года Дзяржаўны літаратурна-мемарыяльны музей Якуба Коласа вітаў у сябе Веру Рыч і Чэслава Сенюха, перакладчыкаў твораў вялікага песняра на англійскую і польскую мовы. На сустрэчу прыйшлі сябры Коласава дому, літаратары, навукоўцы, сваякі Якуба Коласа.

З прывітальным словам выступіла вядучая вечарыны Марыя Міцкевіч, унучка беларускага класіка, старшыня дзіцячага фонду "Сакавік", навуковы супрацоўнік Нацыянальнага навукова-асветніцкага цэнтра імя Ф. Скарыны пры Міністэрстве адукацыі Рэспублікі Беларусь.

Гісторык Алег Трусаў гаварыў аб значнай ролі перакладчыцкай дзейнасці паважаных мастакоў слова.

**"Мой родны кут, як ты мне мілы,**
**Забыць цябе не маю сілы..."**

Супрацоўніца дзіцячага фонду "Сакавік" Людміла Дзіцэвіч звярнула ўвагу прысутных на дабрачынную дзейнасць шаноўнай госці Веры Рыч.



Гэтымі радкамі з паэмы "Новая зямля" пачаў сваё выступленне зямляк Якуба Коласа паэт Яўген Хвалей.

Вера Рыч вядомая ў нас у краіне як перакладчыца твораў Якуба Коласа на англійскую мову. У сябе на радзіме, у Англіі, яна выдала кнігу перакладаў, куды ўвайшлі лепшыя паэтычныя творы беларускіх пісьменнікаў. Цікава было даведацца слухачам пра творчыя планы Веры Рыч. У яе выкананні прагучаў урывак з паэмы Якуба Коласа "Сымон-музыка" на англійскай мове, а таксама уласныя яе верш.

Пра гісторыю свайго знаёмства з беларускай літаратурай, звароту да перакладаў паведаміў на сустрэчы польскі пісьменнік Чэслаў Сенюх. Ён ужо сем гадоў працуе над перакладам "Новай зямлі", перакладзена пятнаццаць раздзелаў. З заміланнем слухалі прысутныя ўрыўкі з паэмы.

Дзякуючы перакладам твораў беларускай літаратуры на мовы свету, народы блізкага і далёкага замежжа будуць ведаць, што Беларусь — радзіма не толькі Марка Шагала і Адама Міцкевіча, але і Якуба Коласа, Янкі Купалы, Максіма Багдановіча...

**Насця МАКРЫЦКАЯ.**

**НА ЗДЫМКУ: Вера РЫЧ, Марыя МІЦКЕВІЧ і Чэслаў СЕНЮХ у Коласавым доме.**

**Фота Уладзіміра ГУЗОЎСКАГА.**

---

### ЭКАЛАГІЧНЫЯ КАЗКІ

Зусім незвычайны зборнік казак з'явіўся ў выдавецтве "Асар" — "Экалагічныя казкі для дзяцей". Стваральнік новага выдання Л. Моладава не вынайшла новага жанру ў літаратуры. Яна проста склала ў адну кнігу казкі вядомых пісьменнікаў XIX—XX стагоддзяў і назвала іх "экалагічнымі", таму што яны распавядаюць аб прыродзе і жывых істотах, што насяляюць нашу зямлю, і дапамагаюць дзецям зразумець неабходнасць аховы навакольнага свету. Казкі распавядаюць пра мноства нябачных нітак, якімі аплецены людзі, жывёліны і расліны, і пра тое, якія страшныя няшчасці прыходзяць, калі чалавек парушае законы прыроды.

**1998-мы – ГОД АДАМА МІЦКЕВІЧА**

# ПАЭТ І УКРАІНА

Пад такой назвай у Доме дружбы ў Мінску пройдзе ў лістападзе вечарына, прысвечаная славянскаму сваціну, чыё свята зляе на ўвесь свет, — Адаму Міцкевічу. Тут будзе распавядацца пра тое, якія шляхі злучалі нашага генія з Украінаю, з Крымам, будзе гучаць частка вершаў і санетаў, створаных паэтам на зямлі гэтай цудоўнай краіны ці пад уражаннем знаходжання там або навеяных украінскім фальклорам, а таксама тых, дзе адчуваюцца матывы і сюжэты, характэрныя для ўсходнеславянскай народнапаэтычнай творчасці.

Менавіта такія творы склалі кнігу, выхад якой у 1994 годзе ажыццявіла львоўскае выдавецтва "Каменяр". На яе вокладцы назва пададзена на дзвюх мовах: "W przyjacieskim domu" і "У дружньому домі", бо ў ёй змешчаны вершы, санеты, балады ды іншыя матэрыялы на мове арыгінала і ў перакладзе на ўкраінскую мову. Шмат паэтычных старонак у якасці перакладчыка Адама Міцкевіча падараваў свету Максім Рыльскі. Пэўную даніну ў гэтую высакародную справу ўнеслі М. Бажан, А. Юшчанка, М. Пятрэнка, М. Прыгара, М. Старыцкі ды іншыя майстры мастацкага слова. Прадмова да зборніка "Украіна і паэтычная муза Адама Міцкевіча" належыць Уладзіміру Матарнаму і Але Татаранка. Гэтае выданне — важкі дакумент, які сведчыць, што Украіна шануе славутага паэта.

Вядома, што Адам Міцкевіч вельмі прыязна ставіўся да Украіны, дзе прабыў каля дзевяці месяцаў. Гэта, канешне, быў толькі эпізод на яго жыццёвым шляху, але эпізод яскравы, поўны ўражанняў і незабыўны. А яшчэ — шчымлівы, бо звязаны ён з выгнаннем паэта і грамадскага дзеяча з Бацькаўшчыны, з яго працяглым існаваннем на чужыне. Яшчэ ў 1817 годзе А. Міцкевіч, тады студэнт Віленскага універсітэта, разам з блізкімі сябрамі-аднадумцамі (сярод якіх былі, дарэчы, і ўкраінец Юзаф Яжоўскі) стварае тайнае таварыства філаматаў, адной з задач якога было пашырэнне асветы сярод народа і абуджэнне яго нацыянальнай свядомасці. Браў ён удзел і ў яшчэ адной маладзёжнай тайнай арганізацыі — філарэтаў. Дзейнасць гэтых таварыстваў спрыяла развіццю вызваленчага руху ў барацьбе супраць царскага самадзяржаўя. Пасля разгрому арганізацый філаматаў і філарэтаў А. Міцкевіч, як і многія яго сябры, быў арыштаваны і пасля працяглага следства, згодна з прысудам спецыяльнай камісіі, падпісаным 14 жніўня 1824 года царом Аляксандрам I, у ліку дзесяці філаматаў і дзесяці філарэтаў назаўсёды высылаўся з роднага краю ў Расію. Перш чым удалося паэту эмігрыраваць, назаўсёды пакінуць Расійскую імперыю, ён чатыры з паловаю гады правёў у Пецярбургу, Адэсе, Маскве і зноў у Пецярбургу.

Так на карце яго шляхоў з'явіўся "Украінскія маршруты". 25 студзеня 1825 года А. Міцкевіч едзе з Пецярбурга ў Адэсу.

З ліста да А. Адынца: "Я здаровы. Еду з поўначы на другі канец Еўропы ў добрым настроі. Сёння, 5 лютага, быў у Кіеве".

У Кіеве ён аглядае Пячэрскую лаўру, іншыя святыні, знаёміцца з людзьмі, гасцюе ў Галавінскіх у сяле Сцяблоў ля ціхае рэчкі Рось. Свае ўражанні ад гэтага маляўнічага куточка паэт выказаў у "Пане Тадэвушы", дзе апісаў народнае гулянне ля рэчкі. Далей А. Міцкевіч чакала Адэса і падарожжа па Крыме. Яго моцна ўражвалі неабсяжныя стэпы, дзе між станцыямі "нічога, акрамя зямлі і неба, не відаць на адлегласці каля 300 вёрстаў..."

З ліста да А. Адынца: "Мая муза пачала ў Адэсе рухацца патроху". Тут ён працуе над "Конрадам Валенродам", санетамі, вершамі. У канцы ліпеня выехаў Міцкевіч у Крым, дзе правёў жнівень і верасень. Наведаў Севастопаль, Бахчысарай, Сімферопаль, Ялту, Алушту, Еўпаторыю, пабываў у гарах, пабачыў старажытныя руіны, захапляўся морам, чароўнымі краявідамі. Вынікам крымскіх уражанняў з'явіліся неўзабае цудоўныя "Крымскія санеты" — васемнаццаць шэдэўраў!

Украіна ў душы А. Міцкевіча пакінула глыбокі след. У сваіх знакамітых лекцыях па славянскіх літаратурах, прачытаных у Парыжы, пра яе гаварыў паэт як аб краі, "вельмі цікавым для гісторыі і літаратуры", а ўкраінскія раўніны называў "сталіцаю лірычнай паэзіі". А яго ўплыў на чалавечыя душы, асабліва чуйныя, творчыя, — надзвычайны. І водар яго чароўнай паэзіі не выветрыцца ніколі, ні ў якіх віхурах часу.

Высока цаніў Адама Міцкевіча вялікі сын і палымяны патрыёт Украіны Іван Франко. Міцкевіч, на яго думку, "...один з найгеніальніших людей, яких видало людство".

Як засведчылі сучаснікі геніяльнага паэта, А. Пушкін на адной з сваіх вечарын ўсклікнуў у адрас Адама Міцкевіча: "Какой гений! Какой священный огонь!" Як мне здаецца, "свяшчэнны агонь" — вельмі трапная афарыстычная характарыстыка самой сутнасці Міцкевіча-творцы.

Я разумею: пераклад — не арыгінал. Але так хочацца, каб наш чытач пагрэўся як можна часцей ля свяшчэннага агню паэзіі і самога духу неўміручага Адама Міцкевіча!

**Васіль ЖУКОВІЧ,**
**сябра рады "Беларусь — Украіна".**

**Адам МІЦКЕВІЧ**

## *З КРЫМСКІХ САНЕТАЎ*

### СТЭПЫ АКЕРМАНСКІЯ

**Плыву прастораю сухога акіяну,**
**Нырае ў зелень воз і ледзь не патанае,**
**У хвалях шумных траў і кветак абмінаю**
**Адно каралавыя астравы бур'яну.***

**Змрок ападае ўжо, — ні шляху,**
**ні кургану.**
**Бы лодцы правадніц, я ў небе зор**
**шукаю.**
**Там воблака блішчыць! Нібы ў ім золак**
**зззяе.**
**То Днестр блішчыць — маяк гарыць**
**ля Акерману.**

**Як ціха! Станьма! Чую клін**
**я жураўліны,**
**Якога б нават сакаліны зрок**
**не ўгледзеў;**
**І чую, як матыль гайдае дзесь травіну,**

**Як таямнічы вуж крадзецца ў зёлках**
**недзе.**
**Мой чуйны слых пачуў бы ў гэтыя**
**хвіліны**
**І ціхі кліч з Літвы. — Ніхто не кліча,**
**едзем!**

* На Украіне і ўзбярэжжы бур'янам называюць высокія кусты, якія ўлетку пакрываюцца кветкамі і прыемна ўпрыгожваюць раўніны. (А. М.).

### БАХЧЫСАРАЙ

**Пусты, нямы палац Герэя і дзядзінец!**
**Пристанішча мілосці, трон ды ганкі, сені,**
**Што аж мялі чалом пашы**
**у пакланенні, —**
**Змей, саранчы цяпер абжытыя мясціны.**

**Пранік скрозь вокны плюшч,**
**збуялая расліна,**
**Прабіўся на глухія сцены і скляпенні,**
**Займае ад імя прыроды рук тварэнні,**
**Нібыта Валтасару пішучы: "Руіна".***

**У зале ў мармуры фантан, жывы адзіна,**
**Гарэмны, тут сляза ўсё за слязой ліецца,**
**І ў цішыні чуваць дакор**
**тых слёз-пярлінак:**
**"Каханне, сіла, слава! Вечнасць вам**
**даецца;**
**І дзе ж вы, дзе перад крыніцай**
**хуткаплыннай!**
**О ганьба: вы прайшлі! Крыніца**
**застаецца.**

* Апошні вавілонскі цар Валтасар падчас свайго балю, згодна з біблейскім паданнем, убачыў руку, якая напісала на сцяне таямнічае: "Манэ, тэкель, фарэс". Як вытлумачыў прарок Данііл, надпіс прадвяшчаў цару пагібель.

### ГРАБНІЦА ПАТОЦКАЙ

**Ў краі вясны, паміж раскошнымі садамі,**
**Ты, ружа юная, завяла! Ў сэрцы рана,**
**Бо ад цябе дні будучыні гэтак рана**
**Ураз адляцелі залатымі матылькамі.**

**Чаму ж палаюць так грамады зор начамі**
**Ў бок поўначы, куды глядзець**
**не перастану?!**
**Мо, перш як згаснуць, позірк твой**
**агняны**
**Дадому шлях праклаў агністымі**
**слядамі!**

**Зямлячка, й дням маім тут скрушна**
**завяршыцца;**
**Прыязная далонь хай кіне жменьку**
**жвіру...**
**Вандроўнікі гавораць пры тваёй**
**грабніцы,**

**Падыдзе і вяшчун з самотнай**
**песняй шчырай,**
**І я звон роднай мовы ўчую —**
**цуду збыцца, —**
**Спяе мне, бо мая спачне тут блізка ліра.**

*Пераклад з польскай мовы*
*Васіля ЖУКОВІЧА.*

**Адам МІЦКЕВІЧ**

### ДАБРАНАЧ

**Дабранач! На сёння забавы даволі,**
**З анёламі сну будзем бавіцца ўночы.**
**Хай стануць сухімі ад слёз твае вочы.**
**Дабранач! Хай сэрца спачыне на волі.**

**Дабранач! З хвілін, што мы дзелім**
**міжволі,**
**Няхай нейкі гук застанецца прарочы**
**Ігрою ў вушах... Сам да сну неахвочы,**
**Хацеў бы з'явіцца я ў сне тваім болей.**

**Дабранач! Зірні яшчэ раз, ці сумую.**
**Дабранач! Ты ў сэрцы і перад вачыма.**
**Дай грудзі твае перад сном пацалую!**

**Дабранач! Чакай... Нельга ж стукаць**
**дзвярыма...**
**Дабранач праз клямку. Я ўсё ж**
**рызыкую:**
**Заснуць ад "дабранач" маіх немагчыма.**

### ДОБРЫ ВЕЧАР

**Добры вечар! Ён стаў мне найлепшым**
**зычэннем.**
**І ніколі, ні хвіляй начнога расстання,**
**Ні тады, калі блісне на ўсходзе світанне,**
**Я не буду вітацца з такім захапленнем.**

**Калі ўвечар прыйду, заахвочаны ценем,**
**Ты сустрэнеш мяне сарамлівым**
**маўчаннем.**
**Хоць прыйду я з найлепшым сваім**
**пажаданнем,**
**Ты ўздыхнеш і адорыш мяне**
**засмучэннем.**

**Добры дзень толькі тым, хто ў жыцці**
**мітуслівым**
**Сваю працу і радасці дзеліць заўсёды.**
**А Дабранач хай будзе каханкам**
**шчаслівым.**

**Хто з кубка турбот п'е нектар асалоды,**
**Ну а тым, хто абыдзены шчасцем**
**шчымлівым,**
**Добры вечар суцішыць трывогу нягоды.**

### ДОБРЫ ДЗЕНЬ

**Добры дзень! Стаю, гляджу**
**ў замілаванні.**
**Дух яе ўзляцеў на райскія абшары**
**І адразу ж засвяціўся ў любым твары,**
**Нібы сонца, што крадком з-за хмаркі**
**гляне.**

**Добры дзень! Яна ўздыхнула.**
**Я ў чаканні.**
**Толькі глянула, і блiснуў водбліск мары.**
**Мухі падаюць на твар яе, пачвары.**
**Добры дзень! А ў вокнах —**
**сонечнае ззянне.**

**Добры дзень табе, узрушаны, нясу я,**
**Ну а ўбачыў — і не вымаўлю два словы:**
**"А ці спала ты! І ці ўстаеш здаровай!"**

**Хто руку табе з уцехай пацалуе!**
**Адысці! Ну што ж... Убор вазьмі**
**свой новы,**
**А як выйдзеш, "Добры дзень!" — табе**
**скажу я.**

*Пераклад Яўгена МІКЛАШЭЎСКАГА.*

## ВЫСТАВА






**У выставачнай зале Музея сучаснага выяўленчага мастацтва ў Мінску дэманстравалася выстава "Тайвань учора і сёння", арганізаваная Міжнародным фондам Тай Мін эканамічнага і культурнага супрацоўніцтва паміж Мінскам і Тайбэем. У экспазіцыі — творы жывапісу, дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва старажытнага Кітая з калекцыі Нацыянальнага музея гісторыі Тайбэя, а таксама фотавыстава пра сучасны Тайвань.**

**У час работы выставы прадугледжвалася чытанне лекцый аб культуры і мастацтве старажытнага Кітая, паказ відэафільмаў аб сучасным Тайвані, сустрэчы з прадстаўнікамі тайваньскіх арганізацый, якія каардынуюць супрацоўніцтва ў галіне культуры і інфармацыі.**

**НА ЗДЫМКАХ: кераміка старажытнага Кітая; "Сасна і арол" — праца мастака Чын-Сін Тао.**

**Фота Яўгена КАЗЮЛІ, БелТА.**

## РАМЯСТВО – АД БАБУЛІ



**Рукадзельніцай расце пяцікласніца Кіраўскай сярэдняй школы Віцебскага раёна Аня МАТВЕЕВА. Любіць пасядзець пасля школы за кроснамі, вытакаць прыгожы ўзор.**

**Фота Аляксандра ХІТРОВА, БелТА.**

# РАДЗІМА НЕ ЗАБЫВАЕЦЦА



**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

Цэнтр шчыльна забудаваны двух,- трох-, нават чатырохпавярховымі дамамі. Пасярод іх рыначная плошча, ад яе ва ўсе бакі разбягаліся вуліцы. Забрукаваныя. Ходнікі з цэментавых квадратных пліт. Да іх часта ўпрытык падступалі сцены дамоў.

Не хачу ідэалізаваць, але чысціня ў мястэчку была выключная. Рыштокі — без травінкі, без пылінкі, пабеленыя. Кожны гаспадар адказваў за чысціню паловы вуліцы перад сваім домам. Паспрабаваў бы не навесці яе — тут жа разлічваўся б штрафам.

Дзяцінства — светлая пара. Нават тады, калі жывецца бедна. Дзецям што трэба? Кампанія равеснікаў ды розныя забавы. Мы прападалі на Скідлянцы цэлымі днямі — купаліся, валяліся ў гарачым пяску, лавілі рыбу... Лазілі ў чужыя сады, хаця сваёй садавіны хапала.

Пасля — школа. Настаўніца, заядлая полька, насміхалася з нас, з нашай мовы, вучыла польскай. А палічыць патрэбным — лінейкай па руках. Поп, калі хто не вывучыць нешта, — тоўстай кнігай па галаве.

Радасным быў верасень 1939 года. Чырвоную Армію віталі як збавіцельку. Усё мястэчка, усе навакольныя вёскі выйшлі на дэманстрацыю з нагоды вызвалення. Спявалі савецкія песні, абдымаліся, танцавалі, славілі Краіну Саветаў. Пасля людзі ўсё больш насцярожваліся. Байцы расказвалі пра незайздроснае жыццё ў той краіне. Некаторыя з іх пачалі ашукваць гандляроў-яўрэяў, красці, п'янстваваць, двое чырвонаармейцаў так напіліся спірту, што, папрасіўшыся пераначаваць, згарэлі на печы ў хаце майго дзеда. Для нашых людзей усё гэта было незразумелым. Бацька, вялікі прыхільнік савецкай улады, вярнуўшыся перад самай вайной з камандзіроўкі ў Чэлябінск, як маці казала, прыкусіў язык: нагледзеўся на той "росквіт", пра які гудзела афіцыйная прапаганда.

Вайна зрабіла дзяцей сталымі раней часу. У першы дзень яе немцы бамбілі аэрадром на ўскраіне Скідзеля. Суседка Фэйга, рвучы валасы на галаве, плачам заходзілася на нашым падворку:

— Смерць, Надзечка, нам, жыдам! Немцы ўсіх нас заб'юць.

Праз нейкі год насельніцтва мястэчка (5,7 тысячы чалавек) паменшала прыкладна на тры тысячы: столькі яўрэяў гітлераўцы пагналі калонай за Гродна. Ніхто з іх не вярнуўся.

13 верасня 1942 года на плошчы былі павешаны восем маладых падпольшчыкаў, сярод іх пяць маіх сваякоў. У пачатку наступнага года ноччу арыштавалі бацьку, ён загінуў летам у канцлагеры Штутгоф. У ліпені сагналі ўсіх жыхароў вёскі Пузавічы (за тры кіламетры ад мястэчка) у дзве адрыны, расстралялі, а вёску спалілі. Загінула цёця Оля, сястра маёй маці. А брата яе Мішу вывезлі ў Германію.

Кроў. Слёзы. Гора сваё і чужое раніла дзіцячыя сэрцы. І зноў жа — якім радасным было вызваленне ад фашысцкай акупацыі!

Пастулова жыццё наладжвалася. Кола вучнёўскіх інтарэсаў пашыралася. Мы асвойвалі наваколле — Верасы, Дуброву, рэкі Котру, Пыранку, Нёман, бліжэйшыя, затым далейшыя вёскі. Цікавасць да сваіх мясцін, да мінулага Скідзеля, Скідзельшчыны засталася ў мяне да сёння.

Першае ўпамінанне пра паселішча ў кнізе "Живописная Россия" значыцца пад 1553 годам. Вось звесткі пра Скідзель за 1620 год. Рамяством займалася пятая частка насельніцтва. Кавалі, бондары, шаўцы, краўцы і іншыя працавалі па сямі спецыяльнасцях. У 1712 годзе сярод чатырнаццаці "ключоў", якія ўваходзілі ў Гродзенскую эканомію, значыўся і Скідзельскі. Скідзель паступова рос. На яго долю выпалі войны са шведамі, французамі, немцамі (двойчы). Гэта спусташала край.

Але працавітасць людзей, зручнае месца размяшчэння — недалёка ад Гродна, побач з Котрай, якая ўпадае ў Нёман, спрыялі развіццю рамёстваў, гандлю. Адсюль вывозіліся і сюды прывозіліся розныя тавары, сыравіна, прадукты. У сярэдзіне мінулага стагоддзя ў мястэчку штогод праводзіліся чатыры кірмашы. У 1878 годзе ў ім жыло 1 525 чалавек, у тым ліку 719 мужчын. Былі царква, праўленне гміны, гарбарны завод, бровар, каля 450 дамоў.

Перад другой сусветнай вайной у Скідзелі пераважала розная дробная вытворчасць. Дзейнічалі пяць гарбарных заводаў, спіртзавод, пякарня, піўзавод, фабрыкі па вырабу дзіцячых цацак, цукерак і г. д.

Сёння Скідзель, якому ў 1974 годзе нададзены статус горада, — адзін з важных прамысловых цэнтраў Гродзенскай вобласці. Працуюць такія буйныя прадпрыемствы, як цукровы камбінат, камбінат хлебапрадуктаў, бройлерная фабрыка, камбінат будаўнічых матэрыялаў, прамкамбінат. Разнастайную прадукцыю даюць не толькі для вобласці, але і для Беларусі, для іншых краін маслазавод, хімічны цэх, цэх каўбасных вырабаў і іншыя. У горадзе створана трывалая будаўнічая індустрыя, ёсць дзве аўтабазы, розныя іншыя арганізацыі.

Рост прамысловасці абумовіў рост горада, яго забудову. Выраслі добраўпарадкаваныя пасёлкі цукровага завода, бройлернай фабрыкі, новыя кварталы жылых дамоў з усімі бытавымі выгодамі, магазінамі, сталовымі, школамі і г. д. Зараз у Скідзелі каля дзвюх тысяч дамоў, сотні з іх шматпавярховыя.

Можна шмат расказваць пра змены, якія адбыліся ў горадзе за апошнія дзесяцігоддзі, пра развіццё культуры, быту, іншых галін жыцця. Скідляне ганарацца многімі старонкамі мінулага, сваімі землякамі і жыхарамі, якія мужна змагаліся за лепшы лёс народа, за свабоду роднай зямлі і ў былыя вякі, і падчас рэвалюцыі, падчас знаходжання мястэчка ў складзе міжваеннай Польшчы, і ў гады апошняй вайны. Сярод іх — І. Сурба, які служыў на



легендарным браняносцы "Пацёмкін", генерал-палкоўнік М. Паўлоўскі, вядомы военачальнік, намеснік начальніка Генеральнага штаба Узброеных Сіл СССР, генерал-лейтэнант І. Іаскевіч і іншыя.

На Скідзельшчыне, у Скідзелі нарадзіліся ці жылі і працавалі тут, пісалі пра гэтую зямлю многія літаратары. Мне даводзілася расказваць пра ўсіх падрабязна, таму згадаю толькі іх імёны: Эліза Ажэшка, Міхась Васілёк, Сяргей Крывец, Аляксей Карпюк, Пётр Сяўрук, Міхась Явар, Алесь Чобат...

Час бяжыць хутка. Але не забываюцца падзеі мінулага. Іншы раз раптам узнікне з глыбіні памяці нейкі эпізод. І ўявіцца даўняе так выразна, нібы было яно ўчора. Асабліва ярка прыгадваюцца малюнкі дзяцінства, юнацтва. І гэта натуральна. Чалавечая памяць, асабліва ў дзяцінстве, юнацтве, учэпістая, у ёй назаўсёды адлюстравана бачанае. І яна абуджае яго ва ўсёй разнастайнасці малюнкаў і вобразаў, гукаў і пахаў.

Радзіма ніколі не забываецца.

**Мікалай ДЗЕЛЯНКОЎСКІ.**

**НА ЗДЫМКАХ: помнік воінам і партызанам; касцёл; вароты ў стары парк.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

НАВІНЫ ФІЛАТЭЛІІ

## БелАЗУ — 50 ГОД

У далёкім ужо 1948 годзе ў беларускім горадзе Жодзіне на базе завода "Дармаш" быў створаны Беларускі аўтамабільны завод — БелАЗ — па вытворчасці вялікагрузных аўтамабіляў. У лістападзе 1958-га з канвеера завода сышоў першы 25-тонны МАЗ-525, у 1961 годзе — 27-тонны БелАЗ-540. Сёння вытворчае аб'яднанне "Беларускі аўтамабільны завод" — адзін з найбуйнейшых у свеце і адзіны ў СНГ вытворца кар'ерных аўтамабіляў для горназдабываючай прамысловасці. Завод выпускае самазвалы грузападымальнасцю ад 32 да 250 тон, разнастайную спецтэхніку — франтальныя пагрузчыкі, калёсныя бульдозеры, аэрадромныя цягачы, аўтамабільныя паўпрычэпы-самазвалы, грузавыя малатанажныя аўтамабілі "Люблін-БелАЗ" і іншую тэхніку.

Прадукцыя Беларускага аўтазавода даўно трапіла на паштовыя маркі. Яшчэ савецкая пошта прысвяціла некалькі сваіх выпускаў аўтамабілям жодзінскага завода. У 1968 годзе быў выпушчаны першы мастацкі канверт з адлюстраваннем самазвала "БелАЗ-540", які атрымаў залатыя медалі на Міжнародным кірмашы ў г. Лейпцыгу (Германія) у 1965 годзе і ў г. Плоўдзіве (Балгарыя) у 1966 годзе. Самазвалы Беларускага аўтамабільнага завода былі неаднаразова паказаны на паштовых мініяцюрах, выдадзеных да розных юбілеяў тагачаснага СССР.

Самазвалы Беларускага аўтазаводы адлюстраваны таксама на марках Паўночнай Карэі і Манголіі.

Да 50-гадовага юбілею БелАЗа (г. Жодзіна) пошта рэспублікі выпусціла серыю з пяці марак, на якіх адлюстраваны некаторыя мадэлі вялікагрузных кар'ерных самазвалаў і франтальны пагрузчык, выпушчаныя БелАЗам у розныя гады. Філатэлісты рэспублікі, іх калегі за рубяжом, якія цікавяцца паштовымі выпускамі, прысвечанымі аўтамабілебудаванню, атрымалі ад беларускай пошты цудоўны падарунак — маркі былі выпушчаны таксама ў малых лістах. У лісце адна серыя марак і купон. На купоне адлюстраванне кар'ернага самазвала ў рабоце. Палі малога ліста аздоблены юбілейным тэкстам: "50 год. БелАЗ". Аўтар серыі марак і малога ліста — мастак Г. Долбік. Да юбілею выпушчаны таксама маркіравальныя паштовыя карткі і мастацкія канверты з адлюстраваннем кар'ерных самазвалаў, паказаных на марках. 12 жніўня на пошце г. Жодзіна, у дзень уводу марак у паштовы абарот, праводзілася спецыяльнае гашэнне на канвертах "Першы дзень".

**Леў КОЛАСАЎ.**




Рэдактар
Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь;
Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі;
Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).



НАШ АДРАС:
220005, Мінск, праспект Ф. Скарыны, 44.

Тэлефоны: 213-31-97, 213-32-80, 213-30-15, 284-76-56, 213-37-82.



Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку». (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).
Тыраж 1 592 экз. Індэкс 63854. Зак. 1671.
Падпісана да друку 28.09.1998 г. у 12.00.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.